● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

25 ліпеня 1998 г. субота, № 147 (23498)

# ЗВЯЗДА



## ПЕНСІІ Ў ЖНІЎНІ будуць выплачвацца своечасова

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» намеснік кіраўніка Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Леанід Пісарчык, паводле апошніх даных, фінансаванне выплаты жніўеньскіх пенсій забяспечана на 84,3 працэнта. Для гэтых патрэб назапашана 3,3 трыльёна рублёў (усяго неабходна 4,6 трыльёна). Бюджэт выплат у сувязі з павелічэннем памераў пенсій павялічыўся на 700 мільярдаў рублёў, аднак гэта ніякім чынам не паўплывала на тэрміны атрымання грошай насельніцтвам.

Сума пратэрмінаванай запазычанасці па-ранейшаму «вісіць» на адзнацы 1,9 трыльёна рублёў. Сярод даўжнікоў найбольш складанае становішча ў калгасаў і саўгасаў, большая частка якіх з'яўляецца патэнцыяльнымі банкрутамі, таму і не мае магчымасці пералічваць страхавыя ўзносы.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЦУКРУ ХОПІЦЬ УСІМ...

**Запасаў цукру ў рознічнай гандлёвай сетцы Беларусі цяпер дастаткова для бесперабойнага забеспячэння насельніцтва на працягу 7—9 дзён.**

Зрэшты, як паведамляюць спецыялісты Міністэрства гандлю, перабоі могуць адбыцца пры ўзнікненні ў асобных рэгіёнах рэспублікі рэцыдываў ажыятажнага попыту.

Дарэчы, статыстыка сведчыць, што ў гэтым годзе ў магазінах і на рынках ужо рэалізавана 146 тысяч тон цукру. Гэта амаль у паўтара раза больш, чым у мінулым.

**БЕЛТА.**

## Толькі факт

● За І паўгоддзе ў рэспубліцы пабудаваны 1 мільён 291 тысяча квадратных метраў жылля, або **на 23 працэнты больш,** чым за адпаведны перыяд мінулага года.

● Сёння ў Беларусі **дзейнічаюць 24 ліцэі,** у якіх вучацца 7850 хлопчыкаў і дзяўчынак.

● **Новая мадэль** транспартнага сродку распрацавана інжынерамі і канструктарамі завода «Белкамунмаш». Эксперыментальны ўзор тралейбуса працуе на пераменным току, у той жа час як увесь айчынны парк — на пастаянным.

## АБ ПРАБЛЕМАХ УЗАЕМАДЗЕЯННЯ Ў РАМКАХ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

**Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, 24 ліпеня Аляксандр Лукашэнка прыняў са справаздачай паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта Беларусі ў органах інтэграцыі — намесніка прэм'ер-міністра Васіля Далгалёва.**

Васіль Далгалёў далажыў аб ходзе падрыхтоўкі чарговага пасяджэння выканкама, а таксама Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі і праінфармаваў кіраўніка дзяржавы па пытаннях узаемадзеяння з урадам Расійскай Федэрацыі.

На сустрэчы былі таксама разгледжаны пытанні, якія датычаць выканання рашэнняў Выканкама Саюза Беларусі і Расіі, статуса адзінай мытнай тэрыторыі, стварэння тэлерадыёвяшчальнай кампаніі Саюза, а таксама выпрацоўкі схем разлікаў за газ з РАТ «Газпрам».

Па ўсіх пытаннях, якія абмяркоўваліся, прэзідэнт даў даручэнні. Ён указаў на неабходнасць палепшыць узаемадзеянне з Урадам Расійскай Федэрацыі, прадоўжыць работу па ўзгадненню схем разлікаў з РАТ «Газпрам».

Акрамя таго, прэзідэнт даручыў праінфармаваць членаў Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі аб няўзгодненых дзеяннях расійскага боку па павелічэнню мытных пошлін і выпрацаваць на пасяджэнні выканкама меры па ўрэгуляванню гэтага пытання. У ходзе сустрэчы былі пастаўлены задачы па актывізацыі работы ў інтэграцыйным камітэце «чатырох» і абмеркавана пазіцыя Беларусі па рэфарміраванню СНД.

**БЕЛТА.**

## Візы на знаходжанне ў Польшчы з 1 жніўня патаннеюць

**Работнікаў беларускіх турыстычных фірмаў і журналістаў запрасілі ў генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Гродне, каб паведаміць зусім не дрэнную навіну.**

З 1 жніўня для беларускіх і расійскіх грамадзян патаннеюць візы на знаходжанне ў Польшчы: аднаразовая будзе каштаваць 5 долараў ЗША, а шматразовая — 14 долараў. Гэта датычыцца і тых, хто наведвае Польшчу ў гандлёвых і гаспадарчых мэтах.

Адначасова ў генконсульстве падкрэслілі, што правілы перамяшчэння грамадзян паміж нашымі краінамі не змяняюцца, іх па-ранейшаму рэгулюе Дагавор паміж урадам ПНР і СССР аб узаемных бязвізавых паездках грамадзян, падпісаны 13 снежня 1979 года. Гэта азначае, што польскія грамадзяне, якія падарожнічаюць у Расію і Беларусь, а таксама беларускія і расійскія грамадзяне, якія наведваюць Польшчу, могуць афармляць свае паездкі наступным чынам:

● у службовых мэтах, а таксама ў рамках абмену — на падставе пашпарта з пячаткай «АВ»;

● у турыстычных мэтах — на падставе пашпарта і турыстычнага дакумента (ваўчэра), які пацвярджае браніраванне і аплату кошту жылля і харчавання;

● з мэтай наведвання сваякоў ці знаёмых — на падставе пашпарта і запрашэння, якое засведчылі ці выдалі адпаведныя польскія, расійскія ці беларускія органы.

У іншых выпадках (а гэта, як правіла, бізнес) грамадзяне павінны перасякаць мяжу на падставе візы. Дарэчы, у іх патанненні зацікаўлены не толькі расіяне і нашы землякі. Прыватныя гандляры з Беласточчыны, калі да іх стала менш прыязджаць пакупнікоў, запратэставалі вельмі рашуча, даходзіла нават да блакады аўтадарог. Нарэшце ўрад пайшоў ім насустрач.

Барыс ПРАКОПЧЫК.

## Рамонкавая даліна

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.

## ДЭФІЦЫТ ПРЫРОДНАГА ГАЗУ ПАКУЛЬ ЯШЧЭ НЕ ДАСЯГНУЎ КРЫТЫЧНАГА ЎЗРОЎНЮ

**Скарачэнне паставак прыроднага газу з Расіі пакуль не дасягнула ўзроўню, якім пагражае Беларусі РАТ «Газпрам».**

Паводле даных дзяржаўнага канцэрна «Белпалівагаз», у І паўгоддзі айчынныя спажыўцы атрымалі каля 7 мільярдаў кубаметраў блакітнага паліва, што на 14,7 працэнта менш, чым за аналагічны мінулагодні перыяд.

Трэба адзначыць, што транзітная транспарціроўка газу па магістральных газаправодах праз тэрыторыю нашай краіны таксама скарацілася на 3,1 працэнта.

**БЕЛТА.**

## РЭКІ СУПАКОІЛІСЯ -- ВАДА АДСТУПАЕ...

У Пінскім раёне пад вадой апынулася каля 5 тысяч гектараў, а на Століншчыне ўжо было затоплена 12.500 гектараў, і 160 дамоў.

Але дажджы спыніліся, стала спякотна, і паступова рэкі вяртаюцца ў свае берагі.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## «Харчовая карзінка» каштуе ўсё даражэй

**Паводле звестак сацыяльна-эканамічнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў, па стану на 20 ліпеня кошт набору з 25 асноўных прадуктаў харчавання па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту складаў у цэлым па Беларусі 1 млн. 724 тыс. рублёў.**

Такім чынам, як сведчаць разлікі прафсаюзаў, у параўнанні з данымі на канец чэрвеня ў цэлым па краіне кошт «харчовай карзінкі» павялічыўся на 111,4 працэнта, або прыкладна на 176 тыс. рублёў. Цікавай падаецца інфармацыя па асобных рэгіёнах. Так, калі ў сталіцы за апошні месяц кошт набору з 25 асноўных прадуктаў харчавання па нормах МСБ узрос на 102,7 працэнта, то, скажам, у Гомелі рост склаў адразу 121,5, а ў Магілёве -- і ўвогуле 122,7 працэнта. Зараз самымі «дарагімі» ў Беларусі гарадамі з'яўляюцца Віцебск (тут «харчовая карзінка» ацэньваецца ў 1 млн. 871,6 тыс.), Мінск (1 млн. 802,9 тыс.), Гомель (1 млн. 790,5 тыс.) і Магілёў (1 млн. 720,8 тыс.), самымі «таннымі» -- Гродна (1 млн. 597,7 тыс.) і Брэст (1 млн. 561,0 тыс. рублёў).

**Сяргей ГРЫБ.**

## Фінансаванне аздараўлення сёлета праходзіць без зрываў

Сродкі на арганізацыю аздараўлення (у тым ліку і дарослых) сёлета выдзяляюцца своечасова, у строга вызначаны тэрмін. Магчыма менавіта гэтая акалічнасць паспрыяла актыўнай працы дзіцячых лагераў адпачынку (асноўная частка грошай накіроўваецца сюды). Паводле апошніх даных, Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва поўнасцю выканаў бюджэт сямі месяцаў -- за гэты час на патрэбы аздараўлення пералічана 1,34 трыльёна рублёў (у тым ліку на ліпень -- 270 мільярдаў рублёў). Планавы паказчык жніўня складае каля 130 мільярдаў рублёў (памяншэнне ў параўнанні з папярэднім месяцам тлумачыцца тым, што дзіцячы адпачынак падыходзіць да завяршэння) і, як лічаць спецыялісты, ён будзе выкананы.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 24 ЛІПЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (017)** | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 56500 | 57800 | 31600 | 32300 | 8700 | 9200 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 57500 | 58000 | 31600 | 32200 | 9100 | 9250 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 56000 | 58000 | 31500 | 32300 | 8900 | 9200 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 40950.00 | | 22941.18 | | 6530.00 | | Курс на 25.07.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.2255 | | 3.4851 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 70000 | 72000 | 39207 | 40338 | 11162 | 11485 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 65500 | 66000 | 36700 | 36900 | 10400 | 10500 | |

## Крымінал

### Нож — не кельма

У вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна кампанія з чатырох чалавек гуляла да раніцы. Выпілі шмат і пачалі высвятляць адносіны. Адзін з п'яных, мясцовы муляр, дужа пакрыўдзіўся на астатніх і схапіў нож. Дваіх зарэзаў адразу ж, а вось самы малады, вучань ПТВ, хоць і быў паранены, але здолеў уцячы. Цяпер хлопец знаходзіцца ў бальніцы. А падрабязнасці трагедыі высвятляюць следчыя.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

### Сведка цяпер і абвінавачваемы

«Звязда» паведамляла ўжо пра ўзбуджэнне крымінальнай справы ў адносінах да асобных кіруючых работнікаў Галоўнага ўпраўлення Нацыянальнага банка па Гродзенскай вобласці. Злоўжываючы службовым становішчам, у карыслівых мэтах яны садзейнічалі прадстаўнікам крымінальных структур Гродна ў правядзенні незаконных валютных здзелак. 16 ліпеня гэтая справа атрымала працяг.

Супрацоўнікі УКДБ па Гродзенскай вобласці сумесна з работнікамі Галоўнага ўпраўлення камітэта фінансавых расследаванняў затрымалі дваіх жыхароў Прынёманскага краю пры ажыццяўленні здзелкі па куплі-продажы валюты. У ходзе дагляду ў іх выяўлені 6 тысяч долараў ЗША і 360 мільёнаў рублёў. Суд Кастрычніцкага раёна г. Гродна на падставе Дэкрэта Прэзідэнта краіны № 1 ад 5 лютага 1997 года гэтыя грошы канфіскаваў і накіраваў у даход дзяржавы.

Валютчык, які адначасова праходзіць як сведка па вышэйпамянёнай крымінальнай справе, арыштаваны.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## УСМІХНЕМСЯ!




Фота IREX/ProMedia.




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*Першакласнік клянчыць у старшакласніка:*

*— Дай 10 капеек! Ну дай 10 капеек! Той:*

*— Адчапіся.*

*А пасля, падумаўшы, дастаў рубель і кажа:*

*— На. Можа, і мой дзесьці гэтак жа бегае...*

## НА МІНШЧЫНЕ ПАЧАЛАСЯ ЎБОРАЧНАЯ

**Першыя тоны збожжа ўжо сабраны на Міншчыне. Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» старшыня Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Мінскага аблвыканкама Аляксандр Ярашук, да ўборкі ўжо прыступілі шэраг раёнаў паўднёвай і цэнтральнай часткі рэгіёна (Нясвіжскі, Салігорскі, Капыльскі, Клецкі, Чэрвеньскі, Валожынскі).**

Хлеб у гэтым годзе на Міншчыне вырас някепскі, асноўная праблема, як лічыць Аляксандр Ярашук, — надвор'е. Падчас апошняй навальніцы толькі ў Бярэсцкім раёне выпала 26 міліметраў ападкаў. Таму на ўліку кожная хвіліна, тым больш, што гатоўнасць тэхнікі даволі высокая — у межах 85 працэнтаў.

Таксама выклікае апасенні спецыялістаў тое, што збожжа вельмі хутка сохне на корані: па падліках аграрыяў, штодзённа сцяблiны губляюць да 3-4 працэнтаў вільгаці. Таму неабходны паскораныя тэмпы ўборачнай. Інакш збажына проста страціць свае якасці.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ФЕСТЫВАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

## ТРЭЦІ БЫЎ БЫ НЕ ЛІШНІ

На выставу расійскіх майстроў-швачак Аляксандр Сасноўскі прыйшоў адзін. Але сумаваць міністру культуры Беларусі не давялося. Бо там яго чакала жанчына — Наталля Дзяменцьева, міністр культуры Расіі. Канешне, за прайшоўшыя фестывальныя дні міністры ўжо маглі сустрэцца і абмеркаваць усе пытанні міждзяржаўнага культурнага супрацоўніцтва і з'яўленне перад прэсай і гасцямі хутчэй за ўсё павінна было стаць яшчэ адной прыгожай фестывальнай акцыяй. Самымі «публічнымі» міністрамі аказаліся расійскі і беларускі. А самым папулярным пытаннем у журналістаў было «Дзе ж украінскі міністр?» Аляксандр Уладзіміравіч і Наталля Леанідаўна прайшліся па зале разам, захапляючыся унікальным народным мастацтвам. Якое, дарэчы, вельмі шматаблічнае. Вось, напрыклад, пачаставаўшыся наўгародскай медавухай, Аляксандр Сасноўскі падвёў вынік выставы: «Культура сілкуецца народнай творчасцю».

### КЛОПАТ ПРА ПАКАЛЕННЕ

«Славянскі базар у Віцебску» сёлета вырашыў пазнаёміць з мастацтвам моды. У якасці мэтра быў запрошаны Слава Зайцаў са сваім тэатрам моды.

А іншыя паказы мелі назву «Мода і музыка новага пакалення». Адкрыць гэтае мерапрыемства прыйшоў Вячаслаў Міхайлавіч Зайцаў, які сказаў прывітальнае слова. Агульны сэнс яго прамовы можна было вызначыць коратка: «Дарогу маладым». Напэўна ў знак таго, што сам гатовы пацясніцца на «моднай» дарозе, мэтр расійскага мадэліравання тут жа паспяшаўся на цягнік.

І калі мода «новага пакалення» месцамі ўражвала, а месцамі смяшыла, то музыка большасці з гэтых канцэртаў пакідала пераважна вельмі сумнае ўражанне.

У прыватнасці, калекцыям беларускіх мадэльераў, якія глядзеліся зусім няблага, не адпавядаў узровень артыстаў — удзельнікаў канцэрта, за выключэннем Іскуі Абалян і «Палаца». Затое вядучая Алена Спірыдовіч нечакана паказалася ў новай іпастасі. Выйшаўшы на сцэну ў строі мастачкі «Беларускага цэнтра моды» Ніны Астапенка, Алена прайшлася па подыуму не горш, чым гэта рабілі занятыя ў паказе манекеншчыцы.

Між іншым, пацікавіцца беларускай модай прыйшлі Ігар Крутой і Алег Газманаў.

### ЭКАНОМІЯ ПА-ЎКРАІНСКУ

Украіна другі год прымае ўдзел у віцебскім фестывалі «на асобным становішчы». Арганізацыяй мерапрыемстваў нацыянальнага дня стала займацца Міністэрства культуры Украіны. Знаходжанне сваёй дэлегацыі на фестывалі Украіна аплачвае сама. Таму, адпрацаваўшы свой канцэрт, украінскія артысты на наступны ж дзень накіраваліся дадому. За выключэннем тых, хто будзе ўдзельнічаць у заключным канцэрце, і афіцыйных прадстаўнікоў дэлегацыі.

### З РАСІІ З ЛЮБОЎЮ

У адрозненне ад Украіны, дэлегацыя якой складала 360 чалавек, расіяне прывезлі «ўдарныя сілы» колькасцю амаль 800 чалавек. Большасць з іх — удзельнікі народных і харавых калектываў. Асаблівай падставай для гонару расійскага боку стала тое, што «прадстаўлена высокадухоўнае расійскае мастацтва». Прычым артысты Расіі за свае выступленні не атрымліваюць ганарараў. Акрамя эстрадных зорак.

### АМФІТЭАТР У ХМАРАХ

Васількі мастака Андрэя Грубіна, якімі была аформлена сцэна амфітэатра два папярэднія гады, напэўна, завялі. І саступілі месца аблокам. Можа, гэта яны сімвалізуюць хмары, якія было навіслі над фестывалем. Можа, хмары, якія ходзяць над большасцю тэрыторый славянскага свету. Можа, нялёгкія 10 гадоў існавання амфітэатра. А можа, ідэя афарміцеляў павінна падштурхнуць гледачоў да думкі пра бязвоблачнасць далейшага сумеснага існавання славян? Цікава, што менавіта з-за аблокаў выходзяць «зоркі». Так і хочацца напісаць — быццам праменьчыкі святла...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ІНТЭГРАЦЫЯ Ў ЛІТАРАТУРНЫМ ВЫКАНАННІ

У Гомелі пачаў выдавацца літаратурна-мастацкі і гісторыка-публіцыстычны часопіс «Славяне» (галоўны рэдактар — празаік і драматург Васіль Ткачоў). Заснавальнікамі новага выдання з'яўляюцца пісьменніцкія арганізацыі Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей, а таксама Міжнародны фонд славянскай пісьменнасці і культуры. У састаў рэдакцыйнай калегіі «Славян» увайшлі Іван Шамякін і Міхаіл Расолаў, гомельскі губернатар Мікалай Вайцянкоў, пісьменнікі з Уладзівастока і Ташкента, Чарнігава і Бранска. Часопіс будзе выдавацца на трох мовах — беларускай, рускай і ўкраінскай.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## НАСТАЎНІКАМ НЕ ПЛАЦЯЦЬ ГРОШАЙ

**Паводле апошніх даных, запазычанасць па выплаце заработнай платы настаўнікам дасягнула 56 мільярдаў рублёў. Самыя вялікія даўгі ў Магілёўскай вобласці — 27,8 мільярда рублёў (з іх 15 — зарплата, 12,8 — адпускныя). На Гомельшчыне дзяржава завінавацілася настаўнікам 18,7, Брэстчыне — 4,7, Гродзеншчыне — 4,8 мільярда рублёў. Больш аптымістычнае становішча ў Мінскай і Віцебскай абласцях, дзе грошы работнікам сферы адукацыі выплачваюцца больш-менш рэгулярна.**

Асаблівую заклапочанасць у спецыялістаў, на думку старшыні галіновага прафсаюза Тамары Чобатавай, выклікае сітуацыя з выплатай заробкаў, якая склалася на Магілёўшчыне.

Там затрымкі на працягу года вагаліся ў межах месяца, а потым па рашэнню мясцовых уладаў тэрміны выплаты і ўвогуле былі аднесены на канец месяца. Такім чынам па незразумелых прычынах былі ўзаконены затрымкі. Па дакументах як быццам бы выходзіла ўсё беспраблемна, а на самай справе настаўнікі атрымлівалі грошы толькі праз месяц. І гэта пры нашых тэмпах інфляцыі...

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», у чэрвені ў Магілёўскай вобласці і ўвогуле бюджэтныя датацыі былі накіраваны на розныя патрэбы, а пра сферу адукацыі чамусьці «забыліся».

Па патрабаванню прафсаюзаў Міністэрствам фінансаў Магілёўшчыне было пералічана 100 мільярдаў рублёў для пагашэння запазычанасці па выплаце заработнай платы менавіта бюджэтнікам (у тым ліку і настаўнікам).

Магчыма, гэтыя сродкі паспрыялі паляпшэнню сітуацыі, бо не так даўно доўг па заробках педагогаў тут складаў 106,4 мільярда рублёў (амаль 9 працэнтаў усёй запазычанасці па народай гаспадарцы).

Як паведаміла Тамара Чобатава, па выніках праведзенай праверкі аказалася, што ў шэрагу раёнаў Магілёўскай вобласці (Краснапольскі, Шклоўскі, Касцюковіцкі і інш.) не выплачваюцца 10-працэнтныя надбаўкі (якія, дарэчы, былі ўстаноўлены прэзідэнцкім указам) з планавага фонду зарплаты за высокія паказчыкі ў працы, складаныя і напружаныя ўмовы выканання сваіх службовых абавязкаў.

Такім чынам, як бачым, з чарговай хваляй настаўніцкіх водпускаў бюджэт не справіўся. Дарэчы, тут справа не столькі ў бюджэце, колькі ў вырашэнні праблемы на мясцовым узроўні. Таму наконт перспектыў спецыялісты размаўляць адмаўляюцца — спрагназіраваць сітуацыю даволі цяжка.

Няўжо настаўнікі сустрэнуць Дзень ведаў з пустымі кішэнямі і спадзяваннямі на лепшыя часы?..

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ПРАШЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ ФУТБОЛА АБ СВАЁЙ АДСТАЎЦЫ «АДФУТБОЛЕНА»

**Прайшоўшае ўчора пасяджэнне выканкама беларускай Федэрацыі футбола журналісты ўжо паспелі ахрысціць «гістарычным» — прэзідэнт федэрацыі Яўген Шунтаў у чарговы раз прасіў аб сваёй адстаўцы.**

Нагадаем, што некалькі месяцаў таму пад «тактычным» націскам «зверху» Яўген Феліксавіч ужо рабіў адну спробу пакінуць пасаду «па ўласнаму», аднак члены выканкама тады прагаласавалі супраць. Супраць выступіў і камітэт УЕФА, які, празнаўшы пра беларускія футбольныя справы, у ультыматыўнай форме нагадаў, што сусветная футбольная гаспадарка жыве па сваіх законах і не пацерпіць умяшання ў яе справы дзяржаўных чыноўнікаў. У адваротным выпадку беларускаму футболу будзе зачынены выхад на міжнародную арэну, а на саму федэрацыю будуць накладзены штрафныя санкцыі. Дарэчы, напярэдадні ўчарашняга пасяджэння члены выканкама атрымалі ліст з УЕФА за подпісам начальніка аддзела садзейнічання і развіцця Эрыка Эпле, у якім недвусэнсоўна сказана: «Захаванне пазіцыі прэзідэнта (чытай: Яўгена Шунтава. — **А.С.**) дазволіць нам і надалей аказваць значную дапамогу вашай асацыяцыі». Больш таго, у бліжэйшы аўторак спадар Эпле сам прыязджае ў Беларусь, дзе хоча сам пераканацца ў тым, што Шунтаў застаўся прэзідэнтам федэрацыі, і ўжо пасля гэтага вырашаць, ці варта УЕФА выдзяляць беларускаму футболу запланаваныя 975 тысяч швейцарскіх франкаў (200 тысяч — федэрацыі, за ўдзел у еўрапейскіх кубках 390 тысяч мазырскай «Славіі», па 160 тысяч — бабруйскай «Белшыне» і мінскаму «Дынама», 65 тысяч — «Дынама-93»).

Зрэшты, учора пасля 3,5-гадзінных дэбатаў адстаўка Яўгена Шунтава большасцю галасоў не была прынята. Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» прэс-сакратар федэрацыі футбола Яўген Вяснін, па статуту выканкам увогуле не мае права вырашаць пытанне адстаўкі прэзідэнта — гэта справа павінна разглядацца на справаздачна-выбарнай канферэнцыі, якая адбудзецца дзесьці праз год, што аўтаматычна азначае толькі адно — Яўген Феліксавіч застаецца прэзідэнтам беларускай федэрацыі футбола.

**Алесь СІВЫ.**

*ТЭНІС. КУБАК ФЕДЭРАЦЫЙ*

## ШЛЯХ У ДРУГУЮ СУСВЕТНУЮ ГРУПУ ПРАХОДЗІЦЬ ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

Сёння і заўтра ў сталічным Палацы тэнісу пройдзе плэй-оф матч за выхад у другую сусветную групу КВ Fed Cup паміж камандамі Беларусі і Венесуэлы.

Для інфармацыі: Fed Cup ці Кубак Федэрацый з'яўляецца адным з буйнейшых і самых прэстыжных штогадовых спаборніцтваў сярод жаночых каманд. Сёлета турніру спаўняецца ўжо 36 гадоў. Удзельнікамі Кубка з'яўляюцца 99 каманд.

У састаў беларускай зборнай увайшлі Наталля Зверава, Вольга Барабаншчыкава, Таццяна Пучак і Надзея Астроўская. Праўда, абараняць колеры рэспублікі будуць дзве першыя тэнісісткі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**БАЛАНС закрытого акционерного страхового общества «Кентавр» на 01 января 1998 года *(млн. руб.)***

| Актив | | Пассив | |
|---|---|---|---|
| 1. Расчетный счет | 860.1 | 1. Уставный капитал | 5.0 |
| 2. Валютный счет | 450.8 | 2. Резерв по рисковым видам страхования | 22259.4 |
| 3. Счета в банке по средствам резервов платежей | 13985.3 | 3. Резерв по накопительным видам страхования | 24.3 |
| 4. Касса | 3.7 | 4. Фонд и резервы специального назначения | 5197.4 |
| 5. Основные средства и другие долгосрочные активы | 3199.2 | 5. Средства в расчетах | 2282.6 |
| 6. Дебиторы | 1902.0 | 6. Прочие пассивы | -8868.2 |
| 7. Прочие активы | 499.4 | БАЛАНС | 20900.5 |
| БАЛАНС | 20900.5 | | |

***Баланс, отчет о прибылях и убытках, основанных на данных бухгалтерского учета ЗАСО «Кентавр» за 1997 год, были опубликованы в газете «Звязда» № 90 от 23 апреля 1998 года.***

***В публикуемом варианте баланса и отчета о прибылях и убытках финансовые показатели изменены по требованию Комитета по надзору за страховой деятельностью при Министерстве финансов Республики Беларусь, согласно письму № 07-06/531 от 02.06.98 г.***

**Отчет о прибылях и убытках за 1997 год (млн. руб.)**

| Прибыль | | Убытки (расходы) | |
|---|---|---|---|
| 1. Страховые взносы по прямому страхованию | 37197.3 | 1. Выплаты страхового возмещения и страховых сумм | 3249.3 |
| 2. Средства, привлекаемые из резервов по накопительным и рисковым видам страхования | - | 2. Расходы на ведение дела | 10292.7 |
| 3. Страховые взносы, полученные от перестраховочных операций | 3008.4 | 3. Отчисления в резервы по накопительным и рисковым видам страхования | 10829.7 |
| 4. Прочие доходы от страховой деятельности | 902.3 | 4. Уплаченные страховые взносы по рискам, переданным в перестрахование | 12627.3 |
| 5. Доходы от внереализационных операций | 1232.8 | 5. Отчисления в фонд предупредительных мероприятий | - |
| ИТОГО ДОХОДОВ | 42340.8 | 6. Прочие расходы | 2312.1 |
| 6. Убытки | - | ИТОГО РАСХОДОВ | 39311.1 |
| ВСЕГО | 42340.8 | 7. ПРИБЫЛЬ | 3029.7 |
| | | ВСЕГО | |

*Стыхія*

## Зноў гора ў Польшчы і Чэхіі

**Мінулагодні паводкавы кашмар, які абрушыўся на Польшчу, сёлета, хаця і не так маштабна, але паўтараецца. Раней небывалыя дажджы прайшлі ў Валбжыхскім ваяводстве. У выніку рэкі выйшлі са сваіх берагоў і затапілі значную частку тэрыторыі. Разбураны ці пашкоджаны многія жылыя будынкі, дарогі, масты, энергетычныя і тэлефонныя камунікацыі. І самае жудаснае — бязлітасная стыхія забрала 7 жыццяў. Сотні людзей эвакуіраваны.**

Як і летась, вядзецца збор грашовых і рэчавых ахвяраванняў для жыхароў пацярпелых ад паводкі мясцовасцяў. Сродкі масавай інфармацыі задаюцца пытаннем: ці можна было лепш падрыхтавацца да нашэсця стыхіі з улікам урокаў мінулагодняй катастрофы? У гэтай сувязі падкрэсліваецца неабходнасць стварэння сістэмы маніторынгу за паводкавай сітуацыяй на ўзроўні гміны.

У суседніх з Польшчай рэгіёнах Чэхіі — таксама гора. Затоплена каля 100 квадратных кіламетраў тэрыторыі. Загінулі 3 чалавекі, 2 тысячы людзей эвакуіраваны з месцаў стыхійнага бедства.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## Пакалечаныя... бацькамі

**Нараджальнасць скарачаецца, а дзяцей, літаральна вырваных з бацькоўскага «пекла», усё больш**

У судзе Ленінскага раёна горада Гродна ўстаноўлены «рэкорд», які, аднак, зусім не выклікае радаснай ўсмешкі. За ўвесь мінулы год было разгледжана 35 спраў аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў. А сёлета ўжо 40, заўважце, толькі за студзень—чэрвень. Пры гэтым задаволена 39 іскаў з боку органаў апекі. А на падыходзе — чарговыя судовыя справы, чарговыя дзіцячыя лёсы, пакалечаныя роднымі бацькамі.

Бацькі дзевяцігадовага Ілюшы прадалі сваю гродзенскую кватэру, хутка прагулялі грошы, а ў Расіі, куды пераехалі жыць, надоўга не затрымаліся. Па вяртанні ў горад над Нёманам бадзяліся па кватэрах, а больш па прытонах. Ілья ўсяго 2 месяцы хадзіў у 1 клас, на гэтым вучоба скончылася. Замест яе — п'яныя оргіі, мардабой. І пастаянны голад: аднойчы чужыя людзі пачаставалі яго зусім нармальнай якасці піражкамі, пасля чаго хлопчыку стала дрэнна і яго забрала «хуткая дапамога». Ілья, калі размаўляў з супрацоўнікамі органаў апекі і міліцыі, сам прасіў , каб яго забралі ад бацькоў. А ім, напэўна, «да ліхтара». Двойчы бацькоў выклікалі ў суд, але марна. Не з'явіліся.

Кватэра, дзе разам з маці (хранічным алкаголікам, тройчы судзімай) пражывала 11-гадовая Аня, нагадвала хлеў. Нават вонкавыя дзверы не зачыняліся, электрычнасць год таму адключылі з-за няўплаты. А Сашу, Дзіму і Андрэя забралі ад бацькоў з цэлым «букетам» захворванняў — кароста, запаленне лёгкіх... Зрэшты, што значыць забралі? Маці ўжо месяц як недзе швэндалася, кінуўшы сваіх дзетак. А тата, скандаліст і пастаянны кліент ЛПП, ляжаў у бальніцы з траўмай галавы.

Сямігадовы Дзіма знайшоў прытулак, а дакладней, выратаванне, у дзіцячым садзіку па сутнасці кінутых бацькамі хлопчыкаў і дзяўчынак. Гэта здарылася пасля таго, як ён у чарговы раз зведаў на сабе бацькаў кулак. За свае 30 гадоў гэтая асоба паспела ўжо 5 разоў адседзець у турме, стаіць на ўліку ў наркадыспансеры. Па словах хлопчыка, тата карміў яго толькі раніцай, а затым у хату прыходзілі наркаманы і варылі сваё «зелле». На працягу дня Дзіму падкормлівалі суседзі. Цяпер у яго адно жаданне: «Хачу быць у дзіцячым садзе. І каб тата туды не прыходзіў».

Многія бацькі, дарэчы, не надта перажываюць з нагоды пазбаўлення правоў на сваё дзіця. Некаторых ўвогуле не даклічашся ў залу суда, іх прымусова дастаўляе сюды міліцыя. Здараецца, што нават у суд прыходзяць «пад мухай». І яшчэ адзін даволі красамоўны факт. Па словах суддзі Таццяны Клімавай, за 10 гадоў яе практыкі ніхто з пазбаўленых бацькоўскіх правоў не прасіў затым гэтае права вярнуць, хаця законам гэта прадугледжана.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*СЁННЯ*

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.10 | 21.20 | 16.10 |
| Віцебск – | 4.54 | 21.17 | 16.23 |
| Магілёў – | 4.59 | 21.09 | 16.10 |
| Гомель – | 5.05 | 20.58 | 15.53 |
| Гродна – | 5.28 | 21.13 | 16.05 |
| Брэст – | 5.34 | 21.28 | 15.54 |

### МЕСЯЦ

***МАЛАДЗІК 23 ліпеня.***
***З 6.29 — 3-я месяцавыя суткі.***
***Месяц у сузор'і Льва.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Прокла, Іларыя, Міхаіла, Фёдара, Іаана, Арсенія**
**К. Якуба, Крыштафа**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у цэнтральных і ўсходніх раёнах пройдуць навальнічныя дажджы. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/сек, пры навальніцах парывісты. Тэмпература паветра ў Гродне — 22—24, Мінску, Брэсце, Віцебску — 23—25, Магілёве — 24—26, Гомелі — 25—27 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ўдзень 27-га месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/сек, пры навальніцах парывы да 14 м/сек. Тэмпература ўначы — 10—15, удзень — 21—25 градусаў вышэй нуля.

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГУМАНІТАРНЫ УНІВЕРСІТЭТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ? А ЧАМУ Б І НЕ!

**Кожная сапраўдная дзяржава, кожная годная нацыя, на якім бы кантыненце свету Бог ні даў ёй месца пад сонцам, мае асноўныя атрыбуты-сведчанні сваёй цывілізаванасці, сярод якіх найперш вылучаюцца нацыянальныя універсітэты -- неабвержныя доказы матэрыяльнай і духоўнай культуры народа, яго інтэлектуальнай моцы і здароўя, яго патэнцыяльных магчымасцяў.**



САРБОНСКІ, Кембрыджскі, Гарвардскі, Падуанскі, Пражскі Карлаў, Кракаўскі Ягелонскі, Маскоўскі Ламаносаўскі і многія дзесяткі іншых універсітэцкіх цэнтраў сусветнай навукі і культуры найлепшае таму сведчанне і нямы, але надзвычай выразны дакор дзесяцімільённай беларускай дзяржаве і нацыі, якая свайго нацыянальнага універсітэта, лічы, не мела і пакуль яшчэ не мае, хоць усе падставы да таго даўным даўно былі і, дзякаваць Богу, сёння яшчэ не да канца зніклі.

Можна зразумець крыўду за дзяржаву, боль за Айчыну, клопат, адчай і надзею інтэлігенцыі Беларусі на будучыню сваёй краіны, сваёй нацыі, яе духоўнага здароўя, яе культуры, мастацтва, мовы і наогул адметнасці паміж іншымі народамі і нацыямі, якія ўсё гэта маюць і толькі з гэтае прычыны могуць лічыць сябе шчаслівымі, бо ў іх ёсць будучыня, бо яны не знікнуць у часе, як тыя іракезы.

Многія вядомыя і паважаныя ў народзе дзеячы культуры Беларусі, прадстаўнікі навуковай грамадскасці і проста прадстаўнікі грамадскасці рэспублікі, не абыякавыя да лёсу Айчыны, недвухсэнсоўна выказаліся адносна гістарычнай неабходнасці стварэння Нацыянальнага беларускага універсітэта як у дзяржаўных і грамадскіх сродках масавай інфармацыі, так і на многіх навуковых форумах, канферэнцыях і сходах.

Дзіўна, а можа і не варта здзіўляцца, але ўлады пакуль ніяк не адрэагавалі на прапановы і патрабаванні грамадскасці адносна адкрыцця нацыянальнага універсітэта. Нібы і не было тых допісаў. Нібы і не існуе праблемы, якая будзе абвастрацца. Нібы і няма ва ўладных структурах свайго меркавання, у што цяжка паверыць. Ну, а калі ёсць, дык памяркуйце, дакажыце адваротнае, калі на тое ёсць пераканаўчыя падставы. З вамі ж размаўляюць вашы суайчыннікі і ваша маўчанне іх крыўдзіць, абражае... Яны могуць непалюбіць вас на ўсё астатняе жыццё і, што яшчэ горш, перадаць сваю непрыязнасць сваім нашчадкам. І гэтаму ніхто не зможа перашкодзіць, бо ўсякае завяшчанне -- рэч інтымная, але надзвычай эфектыўная, запамінальная, якая пераходзіць у спадчыну.

Асабіста я з павагаю стаўлюся да чужой думкі ці меркавання, у прыватнасці і аўтараў публікацый з патрабаваннямі адкрыць у Беларусі нацыянальны універсітэт, ужо за тое, што людзі думаюць, непакояцца, хвалююцца і перажываюць не за нейкія непрыемныя жыццёвыя дробязі, якіх хапае, а, як кажуць, глядзяць у корань, прыкідваюць на перспектыву, мяркуюць пра тое, што чакае нацыю, а ў яе шэрагах і іхніх дзяцей, унукаў, праўнукаў. І сапраўды, у суверэннай незалежнай Беларусі шмат універсітэтаў, але яны ўсе і не рускія і не беларускія. Яны проста безнацыянальныя, што само па сабе парадаксальна. І тут у людзей міжволі ўзнікае пытанне: а чаму б васьмі мільёнам беларусаў не мець хоць адзіны нацыянальны універсітэт? Мы ж браты рускім, яны браты нам. У нас і мовы зацверджаны дзве роўныя паміж сабою. Далібог Беларускі нацыянальны універсітэт не будзе калоць вока грамадзянам Беларусі рускай нацыянальнасці. І трымаць за пазухай камень на беларусаў яны не будуць. Кроў жа адна, славянская. І што тут будзе дрэннага, калі беларускія дзецюкі павучацца ў беларускім нацыянальным універсітэце і паралельна са сваёй роднай мовай дасканала вывучаць братнюю рускую, каб не карыстацца леапюкам пад назвай «трасянка», ад якой у культурных людзей вянуць вушы.

Здаецца мне, што калі б начальства пайшло на людскі дыялог з прыхільнікамі стварэння нацыянальнага універсітэта, а не ўспрымала гэта як нейкі падвох з боку «нацыяналістаў», то і ў публікацыях было б менш эмоцый, папрокаў, раздражняльнай катэгарычнасці. Хоць гэта таксама абсалютна натуральна, калі людзі распачалі гаворку не пра рамонт даху над уласнай кватэрай і ўвайшлі ў канфлікт з камунхозам, а дакрануліся да важнай, лёсаноснай матэрыі. І начальству недзе можна паспачуваць. Яно яшчэ не прызвычаілася да такой нязвыклай тэрміналогіі, як «нацыянальны універсітэт» ці нешта іншае нацыянальнае. Не кідае тое ж нас у дрыжыкі, калі мы чытаем у меню рэстарана: «белорусские национальные блюда -- колдуны, драники, верещака» ды іншыя. А то атрымліваецца, што «одни пописывают, а другие почитывают...» і помсліва маўчаць.

А што калі б улады, падумалася мне ў гэтай сітуацыі, не тузаючыся, без амбіцыйнасці і страху ўступілі б грамадскасці тое, што ёй належыць, і не ператваралі б у свайго вечнага (скажам мякка) антаганіста тую ж самую нацыянальную інтэлігенцыю, якая рэальна ёсць і ад якой усё роўна пазбавіцца нельга, а пайшлі б з ёю калі не на згоду, то на разумны кампраміс. Бо ніхто, як мне здаецца, не збіраецца рабіць з нацыянальнага універсітэта нейкую рэзервацыю, варожую ўладам. Ігнараванне ж нацыянальных інтарэсаў асноўнай нацыі дзяржавы непазбежна будзе і надалей выклікаць варажнечу як з уладамі, так і, не дай Бог, паміж нацыямі. (Толькі гэтага нам і не хапае.)

І падаецца мне, што ў сітуацыі, якую мы маем на гэты сапраўды складаны час, як першы крок да стварэння нацыянальнага універсітэта можна было б без вялікіх затрат і без вялікай небяспекі (калі нехта нечага ўсё яшчэ баіцца) пераарыентаваць Беларускі універсітэт культуры, ператварыць яго ў Нацыянальны гуманітарны універсітэт беларускай культуры з тым, каб няспешна, удумліва і грунтоўна развіваць яго ў вызначаным накірунку. Паняцце «культура» настолькі шырокае і ўсёабдымнае толькі ў сваім гуманітарным значэнні, не кажучы пра яго іншыя, прыкладныя аспекты, што гэта дало б магчымасць развіваць установу не толькі як навучальную, але ў значнай ступені як даследчую, навуковую. Гэта акалічнасць спрыяла б падрыхтоўцы і выхаванню таленавітай моладзі па шырокаму колу дэфіцытных па новым часе спецыяльнасцяў, звязаных не толькі з гуманітарнай, але і з вытворчай і іншымі сферамі сучаснага жыцця, якое патрабуе новых, нетрадыцыйных падыходаў ва ўсіх сферах быцця. У рэшце рэшт ад культуры ва ўсіх яе праявах усё і залежыць. І тут доказы не патрэбны.

Названы універсітэт мог бы адыграць выключную ролю ў патрыятычным выхаванні падрастаючых пакаленняў на вывучэнні і папулярызацыі сярод уласнага народа яго неймавернага, невычарпальнага багацця нацыянальнай культуры, што стваралася папярэднімі пакаленнямі, але да гэтага часу па розных прычынах не было запатрабавана да ўжытку. Найперш гэта скарбы археалогіі, народнага эпасу, музыкальных здабыткаў этнаграфіі і народнай творчасці, мастацкіх рамёстваў, архітэктуры, выяўленчага мастацтва, кнігапісу, кнігадрукавання, прыгожага пісьменства, праватворчасці і многага іншага.

Вышэйшай навучальнай і навуковай нацыянальнай установе было б пад сілу вярнуць многія культурныя традыцыі нацыі, а яны ў вышэйшай ступені гуманныя і дэмакратычныя. Паглыбленае ж вывучэнне непаўторнай па трагізму і гераізму гісторыі народа ад княства Полацкага да нашых дзён і яе папулярызацыя праз выхаванцаў нацыянальнага універсітэта сярод шырокіх мас насельніцтва краю вярнула б людзям страчаную гістарычную памяць, а разам з ёю еднасць, пачуццё ўласнай годнасці, грамадзянскай гордасці і патрыятызму. А гэта якраз тое, без чаго не можа існаваць і развівацца суверэнная, незалежная дзяржава, асабліва калі ўлічыць, што краіну могуць напаткаць непажаданыя падзеі, у тым ліку і трагічныя, калі давядзецца пастаяць за сябе.

Многія галіны гуманітарнай навукі маглі б сканцэнтравацца ў нацыянальным універсітэце. Гэта сёння звычайная практыка універсітэтаў свету. Малыя акадэмічныя інстытуты сёння не ў стане адпавядаць усім патрабаванням часу. Але там працуюць высокакваліфікаваныя вучоныя. Яны маглі б добра падмацаваць кафедры універсітэта і разгарнуць даследчую работу пры ўдзеле студэнтаў.

Зразумела, што стварэнню Нацыянальнага гуманітарнага універсітэта беларускай культуры павінна папярэднічаць не толькі канцэптуальнае вызначэнне яе профілю і абсягу дзейнасці на бліжэйшую і далёкую перспектыву, але і дэталёвая распрацоўка яго структуры і, вядома ж, асноўных, выразна акрэсленых накірункаў дзейнасці. Не варта сумнявацца ў тым, што ў рэспубліцы дастаткова інтэлектуальных сіл, якім па сіле і розуму справіцца з гэтай задачай і падрыхтаваць неабходны праект новай навучальнай і навукова-даследчай установы, а таксама праект яе статута з наступным абнародаваннем гэтых праектаў. Мне, у прыватнасці, Нацыянальны гуманітарны універсітэт бачыцца па-еўрапейску дэмакратычным і па-беларуску талерантным да прадстаўнікоў любой нацыі ці народнасці, што вырашаць прычыніцца да беларушчыны.

Да Беларускага універсітэта культуры, як першаснай базавай пляцоўкі, а дакладней будзе сказаць, да добрага, трывалага падмурка для Нацыянальнага гуманітарнага універсітэта беларускай культуры я звярнуўся зусім не выпадкова. Ведаю гэту неардынарную навучальную ўстанову з дня яе нараджэння. Праз усе дваццаць гадоў з гакам не парываў з ёю сувязі. Уяўляю, якія цяжкасці яна пераадолела, пакуль дасягнула паўналецця. Высока цаню дасягнутае, асабліва на чале з рэктарам Ядвігай Дамінікаўнай Гангаровіч -- самаадданым дзеячам навукі, што ў нялёгкі час прысвяціла сябе служэнню справе айчыннай культуры. Не ведаю, як паставіцца шаноўная Ядвіга Дамінікаўна да маіх пражэктаў, але спадзяюся на яе магчымасці і характар барацьбіта, не сумняваюся, што пры прафесійнай і надзейнай камандзе яна ўпэўнена ўзяла б у свае рукі штурвал новага карабля. Хацелася б спадзявацца, што яшчэ надарыцца магчымасць пажадаць капітану, камандзе і караблю сем футаў пад кілем. А перад гэтым маленькае адступленне-ўспамін пра гутарку перад прызначэннем першага рэктара Мінскага інстытута культуры ў тагачаснага кіраўніка рэспублікі. Нават дваццаць два гады таму Мінскі інстытут культуры ў перспектыве бачыўся кіраўніку «важным асяродкам і нават магутным цэнтрам беларускай культуры». Дык я і сёння паўтараю: а чаму б і не?

А што да матэрыяльна-тэхнічнай базы нацыянальнага універсітэта, то пры праектаванні забудовы Мінскага інстытута культуры пад кіраўніцтвам заслужанага архітэктара Рэспублікі Беларусь, прафесара Л. В. Маскалевіча быў распрацаваны генеральны план і праект развіцця інстытута, у які дадаткова да таго, што пабудавана, уваходзяць яшчэ вучэбныя карпусы, лабараторыі, актавая зала, вучэбны тэатр, спартыўны комплекс і іншае. Ёсць магчымасці дадумацца і да нечага новага. Тым больш, што ўся група архітэктараў, дзякуй Богу, жывая і здаровая. Усё пры жаданні можа атрымацца як у песні -- «что отцы не достроили, мы достроим...»

З павагай да чытача

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ,**
**першы рэктар Мінскага інстытута культуры, ганаровы прафесар Беларускага універсітэта культуры, заслужаны работнік культуры Беларусі, драматург.**

***На заметку аўтааматару***

## Дзяржаўтаінспекцыя папярэджвае: не трэба спяшацца пры куплі аўтамабіля

**Аўтамабіль сёння стаў не раскошай, а сродкам перамяшчэння. Асабліва гэта датычыцца сталіцы, дзе колькасць асабістага аўтатранспарту расце найбольш імклівымі тэмпамі. А ўся нагрузка па рэгістрацыі і праверцы машын кладзецца на адну з самых «гарачых» службаў ДАІ горада Мінска -- міжраённы рэгістрацыйна-экзаменацыйны аддзел № 1. Менавіта тут як у люстэрку можна ўбачыць, хто і адкуль вязе сваё аўто, каб «прапісаць» яго ў сталіцы. Праўда, апошнім часам пачасціліся выпадкі ўвозу ў рэспубліку аўтамабіляў з сумніўнымі дакументамі, змененымі нумарамі на рухавіку, кузаве і тых, што лічацца ў міжнародным вышуку.**
**І тут з «прапіскай» узнікаюць праблемы.**

**Пра рабочыя будні сталічнага МРЭА № 1 расказвае яго начальнік Мікалай КАРАТКЕВІЧ.**

-- Перш за ўсё, -- пачынае гутарку Мікалай Міхайлавіч, -- ад імя нашай службы хацелася б папрасіць прабачэння ў шматтысячнай арміі аўтааматараў, якія павінны траціць шмат часу, каб зарэгістраваць свой аўтамабіль. Хоць, паверце, не па віне МРЭА ствараюцца людскія чэргі. Проста на кожнага нашага супрацоўніка нагрузка цяпер ўзрасла ў некалькі разоў. Мяркуйце самі: у звычайныя «спакойныя» месяцы мы «прапускаем» у сярэднім 4 тысячы транспартных адзінак. Гэта лічыцца нармальным. Але ўжо пачынаючы з мая колькасць рэгіструемага транспарту значна ўзрасла. У чэрвені быў пік: праз міжраённы рэгістрацыйна-экзаменацыйны аддзел сталіцы прайшло звыш 9 тысяч аўтамашын.

—**Прычыны такога ажыятажу?**

—Яны ляжаць на паверхні. Людзі хочуць зрабіць усе справы па афармленню «аўто» да водпуску, што зусім не дзіўна. Яшчэ адна з прычын -- чуткі аб павелічэнні ці змяненні мытных пошлін. У гэтым месяцы сітуацыя крыху стабілізавалася -- намеціўся спад актыўнасці. Хоць, калі параўноўваць, напрыклад, любы прамежак часу сёлетняга года з аналагічным перыядам мінулага, то ўсё ж назіраецца рост.

Аднак служба МРЭА № 1 гатова да ўсякіх нечаканасцяў з боку айчынных аўтааматараў, і ў многім нас выратоўваюць адкрытыя не так даўно два пункты па афармленню і рэгістрацыі аўтамабіляў. Першы адрас: вул. Ціміразева, 105. (Там абслугоўваюцца жыхары Маскоўскага, Фрунзенскага, Савецкага, Першамайскага і Цэнтральнага раёнаў.) Уладальнікі аўто Ленінскага, Кастрычніцкага, Заводскага і Партызанскага раёнаў усю працэдуру па атрыманню тэхпашпарта і нумарных знакаў праходзяць па вул. Сырова, 1.

**-- Чым большы паток транспарту на рэгістрацыю, тым больш з ім праблем. Ці не так?**

-- Безумоўна. Цяпер жа модна стала ганяць машыны з многіх краін Еўропы, у тым ліку Прыбалтыкі, Польшчы. Менавіта гэтыя два рэгёны і з'яўляюцца своеасаблівымі перавалачнымі базамі для дзесяткаў тысяч машын, якія праз звяно «пасрэднік--пакупнік» прасочваюцца на тэрыторыю рэспублікі. А паколькі зараз за руль той жа легкавушкі хоча сесці ледзь не кожны, і ён любымі шляхамі набывае машыну, то і праблем з яе афармленнем і рэгістрацыяй становіцца шмат. Бо людзі гэтай катэгорыі ў асноўным дылетанты ў аўтамабільнай справе, што і выкарыстоўваюць перагоншчыкі-прадаўцы. Звернемся да фактаў і лічбаў. *Толькі ў сёлетнім годзе за 6 месяцаў сталічнай службай МРЭА выяўлена 559 аўтамабіляў, якія хутчэй за ўсё не атрымаюць права на рэгістрацыю: 36 аўтамабіляў -- з падробленымі дакументамі, 161 -- з перабітымі нумарамі рухавікоў, 263 -- са змененымі нумарамі на кузаве, 99 -- значацца ў вышуку.*

Мне толькі застаецца пашкадаваць тых грамадзян, якія трапілі на вудачку аўтадзялкоў. З гэтымі машынамі, за якія ўплачаны грошы, ім прыйдзецца сур'ёзна намучыцца. Таму мы раім:

* Не купляйце аўтамабіль у спешцы, бо ў такім выпадку аферысты могуць вам прадаць любую «ліпу».

* Ні ў якім разе нельга даручаць афармленне дакументаў па аўтамабілю пабочным асобам. Калі ж даверылі, то абавязкова прысутнічайце пры працэдуры афармлення асабіста.

* Ніколі не спакушайцеся на мізэрную цану. У такім выпадку ці з дакументамі, ці з самой машынай нешта не ў парадку.

Памятайце: у ДАІ немагчыма зарэгістраваць аўтамабіль з сумніўным «мінулым». А таму, перш чым нешта зрабіць, -- трэба вельмі добра падумаць.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## БУДАЎНІЦТВА ЖЫЛЛЯ НА ВЁСЦЫ: ТЭМПЫ ПАКУЛЬ НЕ РАДУЮЦЬ

**Згодна з заданнем урада краіны сёлета запланавана ўвесці ў эксплуатацыю ў сельскай мясцовасці за кошт усіх крыніц фінансавання 902,4 тысячы квадратных метраў жылой плошчы, або 10.975 кватэр.**

Па звестках, атрыманых рэдакцыяй у Міністэрстве будаўніцтва і архітэктуры, сёння ў гэтым напрамку праведзена вялікая арганізацыйная работа, падрыхтаваны ў кароткі тэрмін нарматыўна-прававыя дакументы, якія рэгламентуюць гэты від будаўніцтва і даведзены да ўсіх удзельнікаў інвестыцыйнага цыкла. Аднак трэба заўважыць, што за І паўгоддзе ўведзены ў эксплуатацыю толькі 292 тысячы квадратных метраў жылля, або 32,2 працэнта ад задання. Вельмі нізкія тэмпы ўводу жылля ў сельскай мясцовасці назіраюцца ў Магілёўскай і Гомельскай абласцях.

На жаль, пакуль цалкам не выконваецца заданне па ўводу ў эксплуатацыю эксперыментальных комплексаў эканамічных сядзібных жылых дамоў. Комплексы пабудаваны толькі ў Брэсцкай, Віцебскай і Гомельскай абласцях.

**Сяргей КУРКАЧ.**

**Крыху больш года таму наша газета надрукавала інтэрв'ю са старшынёй праўлення «Народнага пенсійнага фонду «Вест» Сяргеем Генадзьевічам Шураковым. Тады размова больш датычылася канцэптуальных праблем развіцця і станаўлення недзяржаўнага пенсійнага страхавання. Публікацыя выклікала адпаведны рэзананс: у рэдакцыю і сам фонд прыходзілі пісьмы, раздаваліся тэлефонныя званкі з прадпрыемстваў і ад асобных грамадзян з просьбай больш падрабязна расказаць пра дзейнасць фонду, гарантыі, тэхнічны бок справы, умовы страхавання... Сёння мы выконваем іх пажаданне. На пытанні адказвае дырэктар «Народнага пенсійнага фонду «Вест» Вольга КАРАТА.**

# КАБ У РАДАСЦЬ БЫЛА СТАРАСЦЬ, ПАКЛАПАЦІЦЕСЯ АБ ЁЙ ЗМОЛАДУ

**— ВОЛЬГА АЛЯКСЕЕЎНА, я рады нашай сустрэчы, бо яна сведчыць, што фонд жыве, працуе на карысць людзям, мае добрыя перспектывы. Але перш чым гаварыць пра вашы здабыткі, хацелася б закрануць такую праблему: для грамадзян нашай краіны недзяржаўнае пенсійнае страхаванне — справа новая, не зусім зразумелая. У чым яго сутнасць і адрозненне ад дзяржаўнага?**

— Мэты і задачы таго і другога адны: дапамагчы чалавеку на старасці гадоў быць і адчуваць сябе чалавекам. Для гэтага ён павінен быць фінансава, матэрыяльна забяспечаным і незалежным. Якасць, я падкрэсліваю гэта, яго жыцця, побыту, магчымасцяў не павінны быць горшымі, чым тады, калі ён працаваў. А ў нечым нават лепшымі. Канешне, здароўе, сілы, як у маладым узросце, нам ніякае страхаванне, няхай гэта будзе дзяржаўнае ці іншае, не гарантуе, але выкарыстаць вольны час з карысцю для сябе, паездзіць па свеце, не быць нікому ў цяжар — гэта рэальна. Трэба толькі, каб кожны чалавек усвядоміў, што ён сам, як кажуць, каваль свайго шчасця. Зараз дзяржава не можа забяспечыць прыстойны ўзровень нашых пенсій. Таму клопаты пра гэта трэба браць на сябе. Ва ўсім свеце тут дапамагаюць спецыялізаваныя страхавыя пенсійныя фонды, якія акумулірююць мэтавыя ўзносы як работадаўцаў, так і саміх грамадзян на асабістыя рахункі людзей. Карацей, яны «зарабляюць» сваю пенсію самі.

Як зараз пабудавана дзяржаўная пенсійная сістэма, у якой, праўда, у апошнія гады адбыліся некаторыя змены?

У свой час заканадаўча былі аб'яднаны Пенсійны фонд і Фонд сацыяльнага страхавання. Новая структура атрымала назву «Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва» і ўваходзіць у Міністэрства сацыяльнай абароны. У гэтым фондзе акумулірующа сродкі, якія выплачваюцца прадпрыемствамі, а дакладней — работадаўцамі (35 працэнтаў фонду зарплаты) і самімі наёмнымі работнікамі (1 працэнт індывідуальнай зарплаты кожнага). У аснову дзяржаўнага пенсійнага забеспячэння пакладзены так званы салідарны прынцып, які мае некаторыя пазітыўныя моманты, але нясе ў сабе і пэўныя недахопы. Груба кажучы, мы зараз роўныя ў беднасці, незалежна ад таго, хто і як працаваў. Афіцыйная статыстыка сведчыць, што 90 працэнтаў нашых старых атрымліваюць пенсію ніжэй за пражытачны мінімум. Ці трэба тлумачыць, што гэта за сабой цягне? А цягне адно: чалавек, які ўсё жыццё аддаў працы, на старасці стаў жабраком, не можа звесці канцы з канцамі. Асабліва гэта абвастраецца ў крызісныя моманты, у часы нестабільнай эканомікі.

Якое бачыцца выйсце, як аблегчыць гаротную долю не сённяшніх — гэта ўжо немагчыма, а заўтрашніх пенсіянераў?

Па-першае, трэба правесці рэформу дзяржаўнага пенсійнага забеспячэння. Яе канцэпцыя быццам бы ўжо распрацаваная, але справа гэтая — на дзесяцігоддзі. Таму, па-другое, дзяржава павінна аказаць падтрымку ў стварэнні, заканадаўчым забеспячэнні, спрыяць станаўленню пенсійных страхавых фондаў, якія б не падмянялі дзяржаўнае пенсійнае страхаванне, а дапаўнялі яго, давалі магчымасць чалавеку паклапаціцца пра сябе і сваіх блізкіх. Тым больш, што дзяржава зараз не ў стане палепшыць пенсійнае забеспячэнне грамадзян з-за эканамічных і дэмаграфічных цяжкасцяў.



**— Добра. Ваш фонд працуе ўжо некалькі гадоў. На якіх прынцыпах пабудавана яго дзейнасць, хто яго заснавальнікі?**

— Так, фонд зарэгістраваны на пачатку 1995 года. Набыты пэўны вопыт. Сярод заснавальнікаў фонду — Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская, шэсць рэспубліканскіх галіновых камітэтаў прафсаюзаў, у тым ліку работнікаў хімічных галін прамысловасці, аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, радыёэлектроннай прамысловасці, прафсаюза металістаў, асобных прадпрыемстваў, а таксама адна з лепшых страхавых кампаній краіны «Вест АСКА». Менавіта яна на пачатку нашай дзейнасці ўзяла на сябе клопаты аб стварэнні добрых умоў працы. Арэнда памяшкання, набыццё камп'ютэраў і праграмнага забеспячэння, мэблі, аўтатранспарту, метадычная дапамога, маральная падтрымка — усё гэта і многае іншае дазволіла «Народнаму пенсійнаму фонду «Вест» адразу пачаць сур'ёзную работу.

А што датычыць прынцыпаў, на якіх пабудавана дзейнасць фонду, то гэта перш за ўсё страхавыя прынцыпы. Тое, што амаль адсутнічае ў дзяржаўным пенсійным страхаванні.

**— Растлумачце, калі ласка.**

— Я раскажу вам на сваім асабістым, горкім і трагічным прыкладзе. У мяне на руках у росквіце сіл памёр муж. Інфаркт. Было яму 47 гадоў. Працоўны стаж — 25 гадоў. Увесь гэты час ён плаціў дзяржаве падаткі, у тым ліку і ў пенсійны фонд. Плаціла і прадпрыемства, дзе ён працаваў. І за ўсё гэта я атрымала на пахаванне страхавую выплату ў памеры 2,5 мільёна рублёў. І атрымліваецца, што мой муж за чвэрць стагоддзя не зарабіў сабе нават на труну. Па ўмовах страхавання нашага фонду ўсе адлічэнні, якія плаціць прадпрыемства і сам чалавек, былі б залічаны на яго асабісты імянны рахунак з правам перадачы ў спадчыну. І ў падобным, як у мяне, выпадку усе гэтыя грошы атрымала б сям'я. І не толькі гэтыя, а з улікам індэксацыі і працэнтаў, якія «набеглі» за 25 гадоў працы.

**— Прабачце, што закрануў у нечым балючую для вас тэму, Вольга Аляксееўна. Наколькі я ведаю, фонд у асноўным працуе з юрыдычнымі асобамі, з прадпрыемствамі, а з асобнымі грамадзянамі менш. Чым гэта выклікана?**

— Сітуацыяй, якая склалася ў нас на рынку страхавых паслуг. Ён пакуль у зародкавым стане, хаця парламент прыняў некаторыя заканадаўчыя акты, якія набліжаюць нас да цывілізаваных краін. Але, нягледзячы на недасканаласць (пакуль яшчэ) нашага заканадаўства, лічу абсалютна правільным устанаўленне жорсткага кантролю з боку дзяржавы за дзейнасцю тых структур, у тым ліку і за работай страхавых арганізацый, якія маюць ліцэнзіі і займаюцца фінансамі і сацыяльнай абаронай насельніцтва. Мы ўдзячныя Камітэту Дзяржстрахнагляду за кантроль, ён пазбавіў нас ад магчымых памылак у мінулым і, спадзяёмся, у будучым. Далей, лічу правільным рашэнне парламента заканадаўча абмежаваць удзел у якасці заснавальнікаў пенсійных страхавых фондаў фізічных асобаў. Хопіць нам Маўродзі і фінансавых пірамід. Так што я, дырэктар «Народнага пенсійнага фонду «Вест», такі ж наёмны работнік, як і вы. Сёння мяне прынялі на работу, заўтра, скажам, за нейкае парушэнне ці некампетэнтнасць, могуць звольніць, альбо я сама магу падаць заяву па ўласнаму жаданню, калі мяне штосьці не задавальняе. Так што з гэтага боку наш кліент застрахаваны: ні я, ні іншы работнік фонду, нават калі б і хацеў, не мае магчымасці зняць грошы з рахунку фонду і збегчы з імі за мяжу. А Федэрацыя прафсаюзаў і іншыя арганізацыі-заснавальнікі — тым больш. Куды ж яны дзенуцца?

Але вернемся да пытання, чаму мы больш працуем з прадпрыемствамі. Згодна з папраўкай, унесенай 13 снежня 1996 года № 780-XIII у Закон «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый», страхавыя ўзносы па дадатковай пенсіі адносяцца на сабекошт прадукцыі па графе «Іншыя затраты». Раней такія адлічэнні рабіліся з прыбытку і ўключаліся ў фонд аплаты працы. Гэта, адпаведна, прыводзіла да павелічэння падаткаў і было нявыгадна прадпрыемству. Праўда, памер такіх адлічэнняў па новаму закону не павінен перавышаць адной мінімальнай зарплаты ў месяц на аднаго работніка. Гэта, канешне, не шмат, але выгадна і прадпрыемству, і работніку. Па-першае, на асабісты рахунак кожнага рабочага паступае штогод 3 мільёны рублёў, а па-другое, дазваляе прадпрыемству вырашыць цэлы комплекс праблем: замацаваць кадры, павысіць дысцыпліну і матывацыю працы, паклапаціцца пра будучыню сваіх работнікаў, у тым ліку і пры няшчасным выпадку, звязаным з умовамі працы (смерцю, траўмай, інваліднасцю) і г. д. і да т. п.

**— Раскажыце, як гэта робіцца практычна? Як дагавор заключаецца, што для гэтага трэба?**

— Па-першае, запісаць у калектыўным дагаворы паміж адміністрацыяй і прафсаюзным камітэтам адпаведны пункт аб дадатковым пенсійным страхаванні работнікаў, вызначыць у ім памер узносу, яго крыніцы, правы і абавязкі адміністрацыі і, адпаведна, работнікаў, іншыя ўмовы. Напрыклад, памер пенсійных узносаў можа быць: адзіным для ўсіх работнікаў, залежаць ад стажу і ўмоў працы, узросту, суадносіцца з аплатай працы работніка альбо ўлічваць некалькі параметраў. Скажам, калі работнік прапрацаваў на заводзе 25 гадоў — узнос большы. Гэта ўжо як вырашыць сам калектыў. У нас ёсць прадпрыемствы, якія выбралі такі варыянт: у калектыўным дагаворы запісана, што права на дадатковае пенсійнае страхаванне атрымлівае работнік пры дасягненні 45 ці 50 гадоў і пры мінімальным стажы на гэтым прадпрыемстве 5 ці 10 гадоў. А ёсць і іншыя варыянты. Гэта залежыць ад рашэння адміністрацыі і калектыву прадпрыемства. У тым і перавага, што сістэм тут можа быць шмат. Альбо возьмем крыніцы фінансавання. Рабочыя вырашылі частку сваіх прафсаюзных узносаў накіроўваць на дадатковае пенсійнае страхаванне. Мы тут можам толькі раіць, а не дыктаваць. Усё, паўтару, вырашае калектыў. І памер узносаў, і нават іх перыядычнасць — штомесячна ці пакватальна. Пасля таго, як калектыў вырашыў усе гэтыя пытанні ў сябе, заключаецца дагавор паміж прадпрыемствам і фондам. Пасля паступлення на разліковы рахунак фонду першага ўзносу на працягу 20 дзён адкрываюцца імянныя пенсійныя рахункі на кожнага рабочага, якія ўключаны ў спіс прадпрыемствам.

**— І далей?**

— Па ўмовах пенсійнага фонду, узносы павінны ўносіцца не менш як тры гады, і толькі пасля гэтага, пры дасягненні пенсійнага ўзросту ў адпаведнасці з заканадаўствам ці наступленні іншых страхавых момантаў (інваліднасць, траўма), чалавек пачынае атрымліваць пенсію.

**— Што робіць фонд з грашыма, якія паступаюць ад прадпрыемстваў на яго рахунак?**

— Добра, што вы задалі гэтае пытанне. Хачу падкрэсліць, што «Народны пенсійны фонд «Вест» — арганізацыя некамерцыйная. Усе даходы, атрыманыя ад фінансавых аперацый, за выключэннем невялікага працэнта, які ідзе на вядзенні справы, размяркоўваюцца сярод кліентаў. Мы не маем права рызыкаваць, таму ўкладваем сродкі толькі ў каштоўныя паперы, гарантам якіх з'яўляецца сама дзяржава, а таксама ў надзейныя інвестыцыйныя праекты. Дарэчы, у Амерыцы, Англіі, Германіі каля 80 працэнтаў усіх інвестыцый у развіццё прамысловасці складаюць сродкі пенсійных фондаў. Таму там дзяржава ўсяляк падтрымлівае дзейнасць і існаванне такіх фондаў.

**— Вы не маглі б праілюстраваць на нейкім прыкладзе тое, што вы сказалі. Калі я правільна зразумеў, атрымліваецца, што мая сукупная пенсія будзе большай, чым сума маіх ці майго прадпрыемства ўзносаў?**

— Вы правільна зразумелі. Вось вам табліца разліку дадатковай пенсіі для мужчын пры розных тэрмінах страхавання, калі страхавы ўзнос складае адну мінімальную зарплату ў месяц — 250 тыс. руб.

| Тэрмін страхавання (гадоў) | Страхавы ўзнос за ўвесь тэрмін страхавання (млн. руб.) | Дадатковая пенсія (тыс. руб.) | | | Будзе выплачана ўсяго за перыяд гадоў (млн. руб.) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пажыццёвая ў месяц | На працягу гадоў (штомесячна) | | | |
| | | | 5-ці | 10-ці | 5-ці | 10-ці |
| 20 | 60 | 2000,0 | 3770,0 | 2510,0 | 226,2 | 301,2 |
| 15 | 45 | 1050,0 | 1980,0 | 1320,0 | 118,8 | 158,4 |
| 10 | 30 | 500,0 | 930,0 | 620,0 | 55,8 | 74,4 |

Хачу патлумачыць гэтую табліцу.

Пры надыходзе пенсійнага ўзросту кожны чалавек можа выбраць адзін з двух варыянтаў атрымання пенсійных выплат.

1-шы варыянт: пажыццёвыя пенсійныя выплаты — рэгулярна (штогод, штоквартальна ці штомесячна) атрымліваць дадатковую пенсію да канца жыцця.

2-гі варыянт: гарантаваныя пенсійныя выплаты на працягу агаворанага шэрагу гадоў, але не менш пяці з правам перадачы ў спадчыну. Гэта значыць рэгулярна (штогод, штоквартальна ці штомесячна — па выбару кліента) атрымліваць пенсію на працягу шэрагу гадоў (5, 10 альбо 15 і г. д.). Зноў жа па выбару кліента.

Няцяжка заўважыць, што найбольш выгадна страхавацца на дадатковую пенсію з маладых гадоў. Тады на вашым рахунку накопіцца значная сума.

**— У якіх выпадках прадпрыемства можа пазбавіць права на дадатковую пенсію і адабраць у мяне рахунак?**

— Гэта павінна быць агаворана ў калектыўным дагаворы. Практыка сведчаць, што такіх выпадкаў няшмат. Напрыклад, калі чалавек звольнены з працы за крадзеж, парушэнні дысцыпліны, з нагоды эміграцыі і некаторыя іншыя.

**— Некалькі слоў пра ўмовы страхавання дадатковай пенсіі для фізічных асоб.**

— Калі асобны чалавек заключае з фондам дагавор і плаціць узносы, то ён таксама атрымлівае права на дадатковую пенсію. Пенсія выплачваецца не раней, чым праз тры гады пасля ўнясення першага ўзносу на асабісты рахунак. Крыніцы, з якіх чалавек плаціць узносы, ён вызначае сам. Я і нашы работнікі, а ўсе мы заключылі дагавор страхавання з фондам, плацім са сваёй зарплаты. Важна ведаць, што гэтыя грошы ў любым выпадку не прападуць, а вернуцца застрахаванаму ці яго нашчадкам нават з індэксацыяй. Больш падрабязна пра ўмовы можна даведацца непасрэдна ў фондзе.

*Нашы каардынаты:*
*220007, г. Мінск,*
*вул. Фабрыцыуса, 9.*
*Тэл./факс 22-88-72,*
*тэл. 22-88-40.*

**Інтэрв'ю вёў Міхаіл МІХАЕВІЧ.**



## ВІНШАВАННІ

Віншуем з днём нараджэння блізкага нам чалавека **Соф'ю Іванаўну МІКУЛІЧ.**

*Желаем счастья,*
*светлых дней,*
*здоровья, что всего ценней.*
*Дороги жизни подлинней*
*и больше радости на ней.*

пас. Акцябарскі, **сябры.**

Дарагую **Аляксандру Віктараўну ШПАКОЎСКУЮ** з в. Месяцічы Пінскага раёна віншуем з 87-годдзем. Жадаем пражыць яшчэ шмат гадоў у бадзёрасці, добрым настроі і стаць старэйшай доўгажыхаркай Беларусі.

**Родныя і Алена,** г. Мінск.

Сардэчна віншуем з 50-годдзем **Валянціну Іванаўну ДЗЕМЯШКЕВІЧ.**

*Пусть счастье словно солнца луч*
*тебя в дальнейшей жизни согревает.*
*Пусть у тебя не будет горьких мук,*
*Любовь и радость рядышком шагают.*

**Шкуратавы,** в. Нарач.

36,6°

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

### АСТЭАПАРОЗ ДАЙМАЕ МУЖЧЫН

Мужчыны хварэюць на астэапароз нават часцей, чым жанчыны. Астэапароз, які назіраецца ў многіх жанчын у перыяд менапаўзы, лічыцца вельмі распаўсюджаным захворваннем. Але даследаванні, праведзеныя нямецкімі вучонымі, паказалі, што ва ўзросце 50--60 гадоў першасны астэапароз у мужчын назіраецца часцей, чым у жанчын той жа ўзроставай катэгорыі. Гэта форма астэапарозу звычайна выклікаецца доўгатэрміновым выкарыстаннем некаторых лекавых прэпаратаў, галоўным чынам кортыкастэроідаў, якія назначаюцца пры розных рэўматычных захворваннях і алергіях. Другім па значнасці фактарам рызыкі з'яўляецца ўзмоцненае вывядзенне кальцыю з арганізма з мачой, звычайна абумоўленае гіпадынаміяй. А найбольш распаўсюджаная прычына другаснага астэапарозу -- рэгулярнае ўжыванне алкаголя, якое зніжае ўтрыманне кальцыю, асабліва ў пазваночніку. Для прафілактыкі захворвання мэтазгодна ўключаць у рацыён прадукты, багатыя кальцыем (малако і малочныя прадукты).

### РЫБА ПАЗБАЎЛЯЕ АД РАПТОЎНАЙ СМЕРЦІ

Ужыванне рыбы і рыбапрадуктаў хоць бы раз у тыдзень значна зніжае рызыку сіндрому раптоўнай смерці ў мужчын. Даследчыкі вылучылі гіпотэзу, што ў рыбе ўтрымліваюцца нейкія рэчывы, якія аказваюць антыарытмічнае дзеянне і зніжаюць смяротнасць пры вострай ішэміі міякарда. Штогод толькі ў ЗША ад сіндрому раптоўнай смерці памірае каля 250.000 чалавек.

**Падрыхтаваў Сяргей СЕРАБРАКОЎ.**
*«АиФ-Здоровье».*

**Нягледзячы на тое, што Еўропа знешне здаецца самай спакойнай і стабільнай часткай свету, праявы тэрарызму тут сустракаюцца яшчэ даволі часта. Зразумела, яны не настолькі маштабныя, як, напрыклад, у Лацінскай Амерыцы ці ў Азіі, на Блізкім Усходзе, дзе на аснове ісламскага фундаменталізму дзейнічаюць дзесяткі тэрарыстычных фарміраванняў. Але відавочна, што чым заможней жыве грамадства, тым мацнейшыя адгалоскі ў ім маюць выхадкі экстрэмістаў. Гэта толькі адна з прычын, па якой да тэрарыстычнай дзейнасці ў Еўропе прыкавана пільная ўвага. Але, бадай, галоўная прычына ў іншым. Тэрарызм — гэта вельмі небяспечная з'ява ва ўмовах агульнаеўрапейскіх інтэграцыйных працэсаў.**



**На карце пазначаны рэгіёны, дзе актыўныя прыхільнікі аўтаноміі.**

# ДА ЕЎРАПЕЙСКАГА АБ'ЯДНАННЯ ШЛЯХАМ РАЗ'ЯДНАННЯ?

Сённяшнія геапалітычныя змяненні на кантыненце абярнуліся нечаканым парадоксам. З аднаго боку, кожная краіна, уступаючы ў Еўрапейскі саюз, добраахвотна адмаўляецца ад пэўных прызнакаў сваёй дзяржаўнасці: усе бакі разумеюць, што сапраўдная інтэграцыя можа адбывацца толькі пры захаванні падобных правілаў гульні. Але з другога боку аб'ядначыя працэсы ўзмацняюць у саміх краінах-удзельніцах сілы, адваротныя цэнтрабежным, што прыводзіць да ўзмацнення сепаратысцкіх тэндэнцый у еўрапейскіх рэгіёнах, тэрыторыя якіх не заўсёды супадае з дзяржаўнымі межамі. Складваюцца ўмовы, калі цалкам аб'яднаная Еўропа яшчэ адсутнічае, але і дзяржаўных межаў ужо фактычна няма. Гэты момант і скарыстоўваецца тымі, хто жадае «раскроіць» кантынент па-новаму.

Паводле замежных экспертаў, у Заходняй Еўропе налічваецца каля сотні рэгіёнаў, якія адрозніваюцца на аснове спецыфічнага ўкладу жыцця, культурных традыцый і моўных асаблівасцяў. Усё гэта дае падставы жыхарам гэтых тэрыторый у той ці іншай меры патрабаваць асаблівага статусу і нават прэтэндаваць на палітычны суверэнітэт. Дзесьці гэтыя тэндэнцыі амаль не адчуваюцца, але ў некаторых месцах яны выліліся ў адкрытую тэрарыстычную дзейнасць.

## Ольстэр: у кожнага свая праўда

24 мая на востраве Ірландыя прайшоў рэферэндум. Нягледзячы на розную дзяржаўную прыналежнасць, на выбарчыя ўчасткі прыйшлі як грамадзяне Ірландскай Рэспублікі, так і грамадзяне Вялікабрытаніі, як католікі, так і пратэстанты. На рэферэндуме было толькі адно пытанне: адносна шляхоў вырашэння працяглага ўзброенага канфлікту ў Ольстэры — адной з частак Злучанага Каралеўства.

94,39 працэнта грамадзян Ірландыі і 71,12 працэнта жыхароў Ольстэра выказаліся за мірны дыялог. Праўда, калі ў Паўночнай Ірландыі 96 працэнтаў католікаў сказалі «так», то сярод пратэстантаў гэтая лічба склала толькі 55 працэнтаў. Такім чынам, стварыўшы Паўночнаірландскую Асамблею, на востраве як ніколі блізка падышлі да мэты стагоддзя — усталявання міру і спакою. Але гэта былі марныя спадзяванні: сёлета пратэстантам зноў захацелася прайсці па раёнах католікаў. Процістаянне паміж прадстаўнікамі розных канфесій разгаралася яшчэ мацней, чым у папярэднія гады. Вынікі нядаўняга плебісцыту былі перакрэслены смерцю некалькіх чалавек.

А лідэры Ірландскай рэспубліканскай арміі (ІРА) на фоне апошніх падзей заяўляюць, што зусім небеспадстаўна адмаўляліся складваць зброю пасля рэферэндуму. На сённяшні дзень ІРА — самая буйная тэрарыстычная арганізацыя ў Еўропе. Яе гісторыя пачынаецца ў 1921 годзе, калі Лондан аб'явіў Паўночную Ірландыю (Ольстэр), у састаў якой уваходзяць шэсць графстваў, сваёй тэрыторыяй. Тады астатняя частка вострава атрымала незалежнасць і афармілася ў выглядзе Ірландскай Рэспублікі.

Плошча Ольстэра — амаль 14 тысяч кв. км. Насельніцтва, якое складае каля 1,5 млн. чалавек, дакладна падзелена па рэлігійнаму прызнаку. Суадносіны пратэстантаў і католікаў прыблізна 3:2. Прычым першыя падтрымліваюць брытанскія ўлады, а католікі настойваюць на далучэнні вострава да Ірландыі, дзе пераважная большасць насельніцтва належыць да іх веравызнання. Аб'яднанне этнічнага ірландскага насельніцтва ў выніку і стала мэтай тэрарыстычнай дзейнасці ІРА.

Карані канфлікту знікаюць у глыбіні стагоддзяў. У 1690 годзе англійскі кароль Вільгельм Аранскі заваяваў ірландскія землі. Гэтым самым, на думку пратэстантаў, была абаронена іх царква на тэрыторыі вострава. Тая перамога ўспамінаецца штогод: у ліпені і жніўні ў Ольстэры праходзяць маршы пратэстантаў ці, як іх тут называюць, аранжыстаў. У адказ католікі праводзяць свае дэманстрацыі. Нярэдка маршруты руху натоўпаў людзей перасякаюцца, у выніку чаго завязваюцца крывавыя ўзброеныя канфлікты з чалавечымі ахвярамі. Спуску не дае ніводзін бок, і іх не можа ўтаймаваць нават паліцыя. У ліпені 1969 года пажарамі былі ахоплены цэлыя кварталы ў буйных гарадах Паўночнай Ірландыі, бальніцы аказаліся перапоўненыя раненымі.

У 1968—69 гадах пачаўся новы віток экстрэмізму ў Паўночнай Ірландыі. Гэта было выклікана тым, што католікі пачалі шырокі рух за грамадзянскія правы. (Да гэтага часу для грамадзян Ольстэра існаваў маёмасны цэнз пры здзяйсненні выбарчага права. У такім становішчы, як правіла, у кіраўніцтве Паўночнай Ірландыі пераважалі пратэстанты. Католікаў, зразумела, пэўным чынам прыцясняў лі, што выклікала адэкватную рэакцыю з іх боку.) Каб падавіць супраціўленне і барацьбу за грамадзянскія правы, пратэстанцкія ўзброеныя атрады рабілі набегі на раёны католікаў. Тады апошнія звярнуліся па дапамогу да ІРА.

Лондан паспрабаваў патушыць канфлікт і накіраваў у Паўночную Ірландыю войскі, паколькі паліцыя ўжо не магла падавіць беспарадкі. Аднак прысутнасць 36.000 англійскіх вайскоўцаў абярнулася тым, што шэрагі ІРА пачалі актыўна расці. Тэрарыстычная дзейнасць арганізацыі перакінулася на тэрыторыю Вялікабрытаніі і іншых краін, якія маглі паўплываць на Лондан. Перамовы, якія ладзіліся неаднаразова, не далі ніякіх вынікаў.

## Баскі спадзяюцца атрымаць суверэнітэт

Іспанія — радзіма яшчэ адной буйной тэрарыстычнай арганізацыі ў Еўропе — «Баскі за радзіму і свабоду» (ЕТА). Каб зразумець прычыны з'яўлення ЕТА, трэба зрабіць невялікую экскурсію ў гісторыю Краіны Баскаў — вобласці, якая знаходзіцца на поўначы Іспаніі, на мяжы з Францыяй. Яна складаецца з трох правінцый: Алава, Гіпускоа і Біская. Плошча Краіны Баскаў складае 1,4 працэнта ад тэрыторыі Іспаніі, а насельніцтва — 4,75 працэнта.

Вядома, што баскі аселі на тэрыторыі сённяшняй Іспаніі яшчэ ў VII стагоддзі. Мова гэтай групы вельмі моцна адрозніваецца ад іспанскай і нагадвае нейкую неверагодную сумесь венгерскай і фінскай. Больш таго, яна мае шмат дыялектаў, таму нават баскі не заўсёды добра адзін аднаго разумеюць. Дарэчы, у Іспаніі афіцыйнай мовай з'яўляецца іспанская (кастыльская). Аднак у краіне ёсць тры вобласці, жыхары якіх прынцыпова размаўляюць на сваіх мовах — Каталонія, Галіцыя і Краіна Баскаў. У часы праўлення Франка мясцовыя гаворкі былі забароненыя.

Тэрарыстычную групу ЕТА заснавалі ў 1959 годзе студэнты. Яны настойвалі на наданні мове баскаў афіцыйнага статусу на тэрыторыі вобласці, а таксама патрабавалі дзяржаўнай аўтаноміі. Зразумела, Франка пра гэта і слухаць не хацеў, таму паліцыя жорстка змагалася з членамі арганізацыі. Адказам стала тэрарыстычная дзейнасць. Доўгі час яе вынікам былі не чалавечыя ахвяры: баскі займаліся толькі тэхнічнымі ці прамысловымі дыверсіямі. Але ў 1970 годзе быў забіты камісар крымінальнай паліцыі Мансанас у горадзе Сан-Себасцьян. Праз тры гады тэрарысты забілі прэм'ер-міністра адмірала Карэра Бланка. Яшчэ праз два гады паліцыя арыштавала двух тэрарыстаў, якіх суд прыгаварыў да смяротнага пакарання. Але гэта не палажыла канец выбухам і стрэлам актывістаў ЕТА.

Палітычная сітуацыя ў Іспаніі змянілася ў 1975 годзе пасля смерці генерала Франка і ўсталявання манархіі на чале з каралём Хуанам Карласам І. Пазней народ прагаласаваў за новую Канстытуцыю і абраў сацыялістычны ўрад. На гэтым, здавалася б, зніклі прычыны для тэрарызму. Але якраз у гэты час ён набывае яшчэ большы размах. Колькасць ахвяр вылічаецца дзесяткамі, а потым і сотнямі, а тэрарыстычныя выбухі ў гарадах сталі звычайнай рэччу. Іспанская дэмакратыя трапіла ў моцную небяспеку. У лютым 1981 года адбыўся дзяржаўны пераварот, які меў поспех толькі на працягу аднаго дня. Тэрарыстам не ўдалося захапіць уладу, але сітуацыя ў краіне была моцна дэстабілізаваная. Нягледзячы на ўсе намаганні паліцыі, баскскі тэрарызм квітнее і сёння. За час існавання ЕТА ад рук членаў арганізацыі загінулі амаль 850 чалавек, з якіх 8 працэнтаў дзяцей і 21 працэнт жанчын.

## Хранічныя хваробы рэгіёнаў

Мы падрабязна разгледзелі сітуацыю толькі ў дзвюх «гарачых кропках». На жаль, Паўночная Ірландыя і Краіна Баскаў не адзіныя месцы, дзе тэрарысты перайшлі да ўзброенай барацьбы з чалавечымі ахвярамі ў выніку. У Францыі нярэдка ўзрываюцца бомбы карсіканскіх экстрэмістаў, якія такім чынам спрабуюць пазбавіцца ад апекі французскай дзяржавы. Востраў Корсіка, які некалі ўваходзіў у састаў Рэспублікі Лігурыя, быў перададзены Францыі 200 гадоў таму. Але за гэтую «крыўду» карсіканцы помсцяць да гэтага часу.

Згодна са статутам Еўрапейскага саюза, яго членам можа быць толькі тая краіна, якая не мае тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў. Адначасова ў Еўрасаюз не можа быць прынята частка дзяржавы, якая імкнецца атрымаць незалежнасць. Пры наяўнасці такога прэцэдэнта «ненадзейная» краіна, якая мае рысы ўнутранай тэрытарыяльнай нестабільнасці, рызыкуе пакінуць агульнаеўрапейскую сям'ю. Такім чынам, кожная дзяржава сама зацікаўленая ва ўнутранай стабільнасці, паколькі жыццё па-за межамі Еўрасаюза сёння ўжо цяжка ўяўляецца яго членам.

Аднак гэтую стабільнасць не заўсёды ўдаецца ўтрымаць, асабліва тады, калі сепаратыстаў падтрымлівае значная частка насельніцтва. Таму некаторыя еўрапейскія рэгіёны, нягледзячы на існуючыя правілы гульні, імкнуцца дзейнічаць на агульнаеўрапейскай арэне самастойна. Такая сітуацыя склалася ў Шатландыі (Вялікабрытанія), якая патрабуе максімальнай аўтаноміі ад Лондана, у Паданіі (Італія), дзе лідэры сепаратыстаў адкрыта заяўляюць аб жаданні пазбавіцца ад «беднага» поўдня Італіі і ўступіць у ЕС асобнай адзінкай, у Фландрыі (Бельгія), дзе назіраецца значнае размежаванне па моўнаму прызнаку.

Самае парадаксальнае ў гэтай сітуацыі тое, што сепаратысцкія тэндэнцыі назіраюцца ў рэгіёнах больш багатых, чым астатняя тэрыторыя. Прычым сепаратысты не адмаўляюцца ад агульнаеўрапейскай інтэграцыі, але хочуць дзейнічаць самастойна.

Аналізуючы такое становішча, нельга пазбегнуць паралеляў з сітуацыяй на постсавецкай прасторы. Пасля распаду Савецкага Саюза рэспублікі разышліся па ўласных «кватэрах» — атрымалі суверэнітэт. Яны самастойна пачалі дзейнічаць у межах СНД, прычым ніхто не адмаўляўся ад ідэй інтэграцыі і супрацоўніцтва. Але ўнутраныя праблемы, барацьба проціледласцяў так і не дазволілі дасягнуць значных поспехаў на гэтым шляху. Наадварот, у Таджыкістане завязалася бясконцая грамадзянская вайна, узніклі канфлікты на тэрытарыяльнай і этнічнай глебах у Расіі, Арменіі, Азербайджане, Грузіі. Хвароба рэгіёнаў, характэрная для Еўропы, узнікла і тут.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ,**
**Хуліо ЛОБА ВАРЭЛА.**

## *ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ*

● **Віцэ-прэзідэнт ЗША Гор правёў** у Маскве перагаворы, у цэнтры якіх — меры па пераадоленню фінансавага крызісу ў Расіі і ратыфікацыя дагавора СНУ-2 расійскай Дзярждумай. Гор двойчы сустракаўся з прэм'ер-міністрам Кірыенкам у рамках пасяджэння расійска-амерыканскай камісіі па навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву. Гор таксама правёў тэлефонную размову з прэзідэнтам Ельцыным, які знаходзіцца на адпачынку. Яны абмеркавалі дэталі вераснёўскай сустрэчы Барыса Ельцына і Біла Клінтана, якая адбудзецца ў Маскве. Амерыканскі сенат ратыфікаваў дагавор СНУ-2 яшчэ ў 1996 годзе. Дзярждума лічыць, што прадугледжаныя скарачэнні даюць Злучаным Штатам стратэгічныя перавагі.

● **Вярхоўны шарыяцкі суд Чачні** зняў з Зелімхана Яндарбіева падазрэнні ў дачыненні да ўчарашняга замаху на прэзідэнта Чачні Масхадава. Экс-прэзідэнт Чачні паведаміў журналістам у Грозным, што суд нават не запатрабаваў ад яго паклясціся на Каране ў сваёй невінаватасці, хаця ён быў гатовы гэта зрабіць.

● **З сённяшняга дня** ў Чачні спыняюцца трансляцыі перадач ГРТ і РТР — першай і другой праграм расійскага тэлебачання. Загад аб гэтым выдаў ваенны камендант Чачні Ісмаілаў. Паводле заявы прэс-службы ваеннай камендатуры Чачэнскай рэспублікі, расійскія тэлекампаніі неаб'ектыўна асвятляюць падзеі, якія адбываюцца апошнім часам у Чачні, і перадаюць скажоную інфармацыю. Гэта адмоўна ўплывае на грамадска-палітычнае становішча ў рэспубліцы, — гаворыцца ў заяве.

● **Генеральная пракуратура Расіі** прад'явіла абвінавачанне яшчэ аднаму падазраваемаму ў забойстве журналіста Дзмітрыя Холадава. Абвінавачанне прад'яўлена афіцэру паветрана-дэсантных войскаў Аляксандру Сароку, затрыманаму на мінулым тыдні. Усяго па справе аб забойстве затрыманы ўжо 5 чалавек. Дзмітрый Холадаў — журналіст «Московского комсомольца» — загінуў у кастрычніку 1994 года ў выніку выбуху, адчыніўшы чамаданчык, у якім — як яму сказалі — знаходзяцца важныя дакументы. Холадаў займаўся расследаваннем карупцыі ў арміі.

● **Міжнародны валютны фонд** прадаставіць Украіне новую пазыку ў памеры 2 мільярдаў 300 мільёнаў долараў, калі яе парламент цалкам прыме ўрадавую праграму рэформаў, — заявіў высокапастаўлены прадстаўнік фонду Фішэр. Па словах Фішэра, МВФ адабрае прадстаўленую ўрадам праграму.

***Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.***

*УСХОДНІ ТАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ*

# Грошы плывуць у рукі Вадалеяў, а ў Ільвоў амаль дасягнутая мэта сплыве як вада праз пальцы

КАЗЯРОГ будзе мець поспех ва ўсіх адносінах, калі праявіць разумную асцярожнасць. Бізнесмен атрымае шанц падпісаць выгадны кантракт, але рызыкуе звязаць сябе дагаворнымі абавязацельствамі з фірмай, якая аказалася на грані банкруцтва. Магчыма судовая цяганіна, таму не шкадуйце грошай на добрага адваката. Палітык відавочна на ўзлёце, аднак трэба асцерагацца карыслівага кампаньёна.

ВАДАЛЕЮ астролаг раіць максімальна выкарыстаць даволі спрыяльны збег абставінаў. Грошы самі плывуць да вас у рукі, але пазбягайце любых сумніўных здзелак, інакш абавязкова «прагарыце». Пастарайцеся выконваць усе свае абавязацельствы на дзень-два раней за агавораны тэрмін. У замужняй дамы вельмі высокая верагоднасць зацяжарыць.

РЫБАМ можа прынесці немалыя засмучэнні нейкая замарочка на рабоце. Калі яшчэ не позна, адмоўцеся ад фінансавага ўдзелу ў ажыццяўленні намечанага сумеснага праекта. На дадзеным этапе вам лепш ціха адсядзецца. Удзяліце максімум увагі асабістаму жыццю — пакуль гэта адзіная сфера вашага поспеху. Зрабіце падарунак каханаму чалавеку.

АВЕНУ проціпаказана нават самая невялікая рызыка. Відаць, хтосьці паспрабуе ўцягнуць вас у безнадзейную справу. Планеты прыхільныя да творчых асоб. Прысвяціце гэты тыдзень рэалізацыі сваіх нераскрытых талентаў. Артысты кіно і тэатра падпішуць выгадныя кантракты. Дома вас чакае нейкая даволі прыемная падзея. У каханкаў наперадзе сексуальны выбух.

ЦЯЛЕЦ завяжа даволі карысныя знаёмства. Магчыма, яно падкажа неардынарную ідэю, якая паслужыць рэалізацыі вашых ранейшых задум. Верагодна, атрымаеце нечаканыя грошы, якія мэтазгодна патраціць на хатнія патрэбы. Многіх чакае моцнае любоўнае захапленне. Не спяшайцеся расказваць пра яго нават сваім сябрам — сурочыце.

БЛІЗНЯТАМ не варта будаваць вялікіх планаў на гэты тыдзень, таму што неспрыяльны перыяд для новых спраў. Планетарная канфігурацыя такая, што ўсё новае затармозіцца на самым старце. Займіцеся дробязямі. Магчыма, узнікнуць нейкія фактары раздражнення і хвалявання. Захоўвайце алімпійскі спакой. Не шанцуе вам у картах — пашанцуе ў каханні.

У РАКА назіраецца блытаніна думак. Напэўна, давядзецца перагледзець планы ці ўвогуле адмовіцца ад іх рэалізацыі. На вас будзе аказаны ціск звонку. Не прымайце імпульсіўных рашэнняў і спакойна абдумайце ўсе варыянты развіцця падзей. Інтуіцыя падкажа правільнае рашэнне. Дама, якая цярпела ад грубых мужланаў, набудзе шчырага палонніка.

ІЛЬВУ давядзецца змірыцца з тым, што амаль дасягнутая мэта сплыве як вада праз пальцы. Не сумуйце, жар-птушка ўдачы хутка зноў паявіцца на вашым гарызонце. Не шкадуйце «заморскага віна і адборнага зерня», каб яе злавіць. Абавязкова акажыце дапамогу таму, каму ад вас яна патрэбна. Астролаг рэкамендуе правесці вечар аўторка разам з каханым чалавекам пры свечках.

ДЗЕВЕ самы час пачынаць новую справу ці адпраўляцца ў камандзіроўку. Замежная паездка будзе напэўна паспяховай. Служачага можа накрыць лавіна нечаканых праблем. Вытанчаны розум і спрыт дапамогуць справіцца з імі. Энергічная дама мае шанц пераехаць у новую кватэру і набыць поўную свабоду дзеянняў у асабістым жыцці. Празмерны секс проціпаказаны.

ШАЛЯМ, хутчэй за ўсё, давядзецца мяняць коней на пераправе. Ранейшы надзейны партнёр можа паказаць свой дзіўны і нават дрэнны нораў. Ваша апора на гэтым тыдні — асоба толькі процілеглага полу, асабліва Цяльцы, Ільвы і Скарпіёны. Зносіны з Шалямі вашага ж полу не пажаданы. Вам рэкамендуецца актыўны адпачынак на вадзе.

У СКАРПІЁНА наперадзе напружаная работа на перспектыву. Не шкадуйце намаганняў, таму што ўзводзіце трывалы фундамент фінансавай стабільнасці. Набудзеце надзейных дзелавых партнёраў. Давядзецца змірыцца з некаторымі асабістымі нязручнасцямі. Хутчэй за ўсё на гэтым тыдні вас не закране чароўны подых кахання.

СТРАЛЕЦ, раней выматаны рознымі замарочкамі, уздыхне з палёгкай. Вы апынецеся ў становішчы ганаровага госця, якому будзе прадастаўлена самая высокая трыбуна. Ваш поспех можа абярнуцца паяўленнем зайздроснікаў. Рызыкуеце даць яму казырную карту ў гульні супраць вас. Аберагаць вас можа адзенне жоўтых ці бэжавых адценняў.

**Сяргей БУЛАНЦАЎ, кар. ІТАР—ТАСС,**
*г. Дэлі.*

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## Крыжаванка

*У гэтай крыжаванцы спалучаюцца два заданні— разгадаць загаданыя словы, як звычайна, па гарызанталях і вертыкалях, а таксама трэба разгадаць дванаццаць загадак па акружнасці, адгадкі якіх размешчаны, як у чайнвордзе.*



**Па гарызанталях:** 9. Месца для ахвярапрынашэнняў у першабытных народаў. 17. Вядомы савецкі педагог, Герой Сацыялістычнай Працы. 19. Від дзяжурства. 20. Машына для ачысткі і сартавання зерня. 23. Вялікі рускі мастак-класік. 25. Узаранае і незасеянае поле севазвароту. 26. Сукупнасць літар з характэрным размяшчэннем. 28. Лёгкая прыбудова да дома. 29. Легендарны беларускі генерал, Герой Савецкага Саюза. 30. Наш зямляк, лётчык-касманаўт СССР. 31. Двухчлен, сума або розначасць двух алгебраічных выразаў. 34. Ігрок футбольнай або хакейнай каманды. 36. Вядомы беларускі пісьменнік. 37. Лёгкая кашуля спартыўнага пакрою. 38. Трапічнае дрэва з ядавітым сокам. 40. Імклівы кругавы рух ветра. 41. У мінулым: вайсковы мундзір з белага сукна. 42. Персанаж паэмы Я. Коласа «Рыбакова хата». 44. Укараненне машын і тэхнічных прыстасаванняў у вытворчасць.

**Па вертыкалях:** 1. Пералівісты, дрыжачы свіст. 13. З'ява прыроды. 14. Лётчык-беларус, які здзейсніў свой подзвіг у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. 15. Металічны барометр. 16. Заглыбленае ў зямлю памяшканне для захоўвання прадуктаў. 18. Спосаб перадачы і прыёму адлюстраванняў на адлегласці. 19. Круты паварот спартыўнай дарожкі. 21. Літаратурны маштабны жанр. 22. Рэчыва, якое ўплывае на хуткасць хімічнай рэакцыі. 24. Слясарны інструмент. 26. Заступнік, абаронца на судзе. 27. Конная рысорная павозка, папулярная ў часы грамадзянскай вайны. 32. Будыніна для часовага жылля. 33. Персанаж аповесці Л. М. Талстога «Каўказскі нявольнік». 35. Кароткі пераказ артыкула, навуковага твора. 36. Выканаўца на адным са струнных музычных інструментаў. 39. Распаўсюджаны сорт яблыні. 40. Беларускі гумарыстычна-сатырычны часопіс. 43. Дакумент на права бясплатнага або льготнага праезду.

**Загадкі па акружнасці — чайнворд**. 1. Аўсом не кормяць, пугай не гоняць, а як араць пачне — сем плугоў цягне. 2. Языка зусім не мае, а на ўсіх мовах размаўляе. 3. У полі тычынка — залатая вяршынька. 4. Ляжыць пад ганкам, хвост абаранкам. 5. На градцы — доўгі ды зялёны, а ў бочцы — жоўты ды салёны. 6. У возеры гуляе, срэбрам адлівае. 7. Старанны конік сто чалавек праз раку перавозіць. 8. Поўная бочачка круп, а наверсе ў яе струп. 9. Тупы канец, востры разец, рэжа лісты аж ляцяць канцы. 10. Увесь свет кармлю, а сама не ем. 11. Румяны Піліп да галінкі прыліп. 12. У вопратцы багатай, ды сам слепаваты, жыве без акенца, не бачыць сонца.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*



## Крыптаграма

Прачытайце зашыфраваную ў крыптаграме прымаўку. Але спачатку разгадайце тры ключавыя словы. Затым адпаведныя літары з гэтых слоў упішыце замест лікаў на малюнку крыптаграмы.

а) 1-2-3-4-5-2-6-7 — месяц года;

б) 8-9-5-10 — ступень пруткасці газаў і вадкасцей;

в) 11-4-12-13-4 — мужчынскі галаўны ўбор у мусульман.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## Летняя галаваломка

Адшукайце ключык да яе і прачытайце слушную прыказку, якая сёлета вельмі дарэчы.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*




## Праверце, калі ласка, адказы

**КРЫЖАВАНКА (18 ліпеня). Па гарызанталях:** 1. Анега. 4. Склад. 10. Патака. 11. Класік. 13. Брамс. 15. Адоніс. 16. Малага. 19. Краб. 21. Чамадан. 22. Чага. 23. Базараў. 24. Казарка. 28. Клін. 30. Балатон. 31. Танк. 35. Ананас. 36. Навага. 37. Сліва. 39. Кімано. 40. Статар. 41. Вальс. 42. Атрад. **Па вертыкалях**: 2. Неаліт. 3. Граб. 5. Кокс. 6. Аладаў. 7. Затока. 8. Браслаў. 9. Кіраса. 12. Байка. 14. Фасад. 17. Каракас. 18. Дагавор. 20. Бізон. 22. Чарот. 25. Аклад. 26. Марціра. 27. Экран. 29. Італія. 32. Анабар. 33. Барана. 34. Балада. 37. Соль. 38. Асот.

**КРЫПТАГРАМА (18 ліпеня).** Ключавыя словы ў ёй: Чаудхуры, бавоўна, памёт, жакей. Прымаўка была зашыфравана такая: «Не той добры, хто мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа».

**ГАЛАВАЛОМКА (18 ліпеня).** Спачатку трэба выбраць літары ў кружочках, потым у тонкіх квадраціках, потым у тлустых. У выніку чытаецца такая прыказка: «Ліпень не дае доўга спаць ды ляжаць, трэба касіць ды жаць».

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ОЙ, ЧЫЯ Ж ТО НІВА, ЧЫЕ Ж ТО ПАКОСЫ

**Па-філасофску сімвалічным малюнкам пачынаецца песня: ніва — вобраз квітнеючага жыцця... І ўжо ў пакосах, а побач — згадка пра дзяўчыну. У запеве гучыць прадказанне лёсу...**

Маці заўсёды жадае шчасця свайму дзіцяці і робіць дзеля гэтага ўсё. Аднак мацярынская любоў часта засланяе шчырыя пачуцці моладзі. І шчасце, што крочыць следам за каханнем, вымушана збочыць.

Застаюцца горкія перажыванні. Звычайна яны пакладзены ў аснову балад-песень ліра-эпічнага характару з драматычна напружаным зместам. Гэтыя вакальныя творы любяць на Беларусі і выконваюць пераважна падчас разнастайных бясед.

Змяшчаем запіс песні «Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы», зроблены Уладзімірам Раговічам: тэксту — у 1983 годзе ў вёсцы Лісовічы Столінскага, мелодыі — у 1964 годзе ў вёсцы Рэчань Любанскага раёна.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы?*
*Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы?*
*Чыя ж то дзяўчына распусціла косы?**

*Гэта ж мая ніва, то ж мае пакосы.*
*Гэта ж мая ніва, то ж мае пакосы,*
*То ж мая дзяўчына распусціла косы.*

*Выпраўляла маці сына у салдаты.*
*Выпраўляла маці сына у салдаты,*
*Нялюбу нявестку ў поле лён ірваці.*

*— Як не вырвеш лёну, то не йдзі дадому.*
*Як не вырвеш лёну, то не йдзі дадому,*
*Стань у чыстым полі да й тапаліною.*

*Рвала яна, рвала, рвала не дарвала,*
*Рвала яна, рвала, рвала не дарвала,*
*Да й у чыстым полі тапалёю стала.*

*Адзін год праходзіць, другі наступае.*
*Адзін год праходзіць, другі наступае,*
*На трэці гадочак прыходзіць сыночак.*

*— Маці мая, маці, што ж то за навіна?*
*Маці мая, маці, што ж то за навіна,*
*Што на нашым полі расце тапаліна?*

*— Не пытайся, сынку, пра тую навіну.*
*Не пытайся, сынку пра тую навіну,*
*На, бяры сякеру, рубай тапаліну.*

*Адзін раз ударыў — яна нахілілась.*
*Адзін раз ударыў — яна нахілілась,*
*Другі раз ударыў — яна папрасілась:*

*— Не рубай, казача, я твая дружына.*
*Не рубай, казача, я твая дружына,*
*Пашукай у лісці — там твая дзяціна.*

*— Маці ж мая, маці, што ты нарабіла.*
*Маці ж мая, маці, што ты нарабіла,*
*Што мяне з мілою навек разлучыла.*

*** Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

● **25 ліпеня 1662 года,** у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай за Украіну, у Маскве ўспыхнуў «медны» бунт супраць царскага ўрада, які рабіў выплаты меднымі грашыма, а падаткі збіраў сярэбранымі.

● **У гэты дзень у 1775 годзе** нарадзіўся Франсуа Відок, авантурыст, шукальнік прыгод, які ў 1809 годзе, адседзеўшы да таго некалькі тэрмінаў турэмнага зняволення, стварыў службу бяспекі Францыі — Сюртэ. Ён прапанаваў свае паслугі дзяржаве ў абмен на асабістую свабоду. Асноўная філасофія Відока заключалася ў тым, што для таго, каб паспяхова лавіць злачынцаў, трэба самому быць злачынцам. Яго намаганні на гэтай ніве былі даволі паспяховымі: толькі за адзін год ён асабіста арыштаваў больш як 800 правапарушальнікаў. Відок сябраваў з многімі славутымі людзьмі свайго часу — Вікторам Гюго, Анарэ дэ Бальзакам, Эжэнам Сю, Аляксандрам Дзюма-бацькам, дзякуючы чаму паслужыў прататыпам для некаторых іх літаратурных твораў.

● **25 ліпеня 1783 года** нарадзіўся Сімон Балівар, кіраўнік барацьбы за незалежнасць іспанскіх калоній у Паўднёвай Амерыцы.

● **У гэты дзень у 1802 годзе** нарадзіўся славуты французскі пісьменнік Аляксандр Дзюма-бацька, аўтар «Трох мушкецёраў».

● **25 ліпеня 1803 года** нарадзіўся Адольф Адан, французскі кампазітар, стваральнік балетаў «Жызель», «Карсар».

● **25 ліпеня 1828 года** нарадзіўся Мікалай Гаўрылавіч Чарнышэўскі, рэвалюцыянер-дэмакрат, пісьменнік.

● **25 ліпеня 1901 года** з турмы горада Калумбус (штат Агаё) за добрыя паводзіны быў датэрмінова выпушчаны Уільям Сідні Портэр. За тры гады і тры месяцы, праведзеныя ў зняволенні, Портэр змог дабіцца літаратурнай вядомасці як майстар апавядання. Выйшаўшы з турмы, ён узяў сабе псеўданім О' Генры.

● **У гэты дзень у 1903 годзе** французскі лётчык Луі Блёрыё першым у свеце на аэраплане пераляцеў Ла-Манш.

● **25 ліпеня 1923 года** нарадзіўся Васіль Шукшын, савецкі пісьменнік, рэжысёр, акцёр. «Нам бы пра душу не забываць. Нам бы хоць крыху дабрэйшымі быць» — яго запавет нашчадкам.

● **У гэты дзень у 1930 годзе** ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову «Аб мерапрыемствах па ліквідацыі непісьменнасці сярод працоўнага насельніцтва».

● **25 ліпеня 1938 года** адкрылася першая сесія Вярхоўнага Савета БССР першага склікання. Быў выбраны Прэзідыум Вярхоўнага Савета і створаны ўрад — Савет народных камісараў.

● **25 ліпеня 1980 года** памёр савецкі акцёр, паэт, аўтар і выканаўца песень Уладзімір Сямёнавіч Высоцкі.

## Вось так...

***Як паведамляе агенцтва Рэйтэр, аўтарытэтная лонданская кансультацыйная кампанія «Контрал Рыскс», абапіраючыся на думку кіраўнікоў вядучых фірмаў Еўропы і ЗША, аб'явіла Расію самай карумпіраванай краінай свету.***

Другое месца ў рэйтынгу заняла Нігерыя, за якой ушчыльную ідуць Украіна, Азербайджан, Узбекістан і Казахстан. Думка кампаніі «Контрал Рыскс» поўнасцю супадае з ацэнкамі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, які лічыць краіны былога СССР самым карумпіраваным рэгіёнам свету. Карумпіраванасць, на думку англійскіх спецыялістаў, пачынаецца з самых вяршынь улады і затым распаўсюджваецца літаральна на ўсё грамадства.

## Дзесьці на белым свеце

***Суд танзанійскай правінцыі Руква прыгаварыў да пакарання смерцю... суку. Уся віна жывёліны заключаецца ў тым, што яна адгукалася на мянушку Іміграцыя.***

Суд угледзеў у яе імені здзек з Дзяржаўнага іміграцыйнага дэпартамента. Як заявіў у абвінаваўчай прамове суддзя, сука з такім імем — зневажальны здзек з аўтарытэту дзяржаўнай установы.

Няшчасную жывёліну, згодна з прысудам, павінны былі застрэліць. Аднак паліцыя адмовілася прыводзіць прысуд у выкананне. Гэта было загадана зрабіць яе гаспадару (якога, дарэчы, ніяк не пакаралі за тое, што менавіта ён прыдумаў «крамольную» мянушку). Еўрапейскі друк называе тое, што здарылася, крайняй праявай дзікунства мясцовых законаў, бо суд нават не прыняў пад увагу цяжарнасць жывёліны.

## І так бывае

***Індзейцы, што пражываюць у вёсцы Панікіта, размешчанай на паўднёвым захадзе Калумбіі, трапятліва адносяцца да абяцанняў, якія даюць сваім выбаршчыкам кандыдаты на розныя выбарныя пасады.***

Джэзус Пінак'ю, якога нядаўна абралі сенатарам, падмануў чаканні жыхароў вёскі. Таму на агульным сходзе яму быў вынесены прысуд — акунуць у ледзяное горнае возера. Прысуд будзе прыведзены ў выкананне ў самы бліжэйшы час. Пакаранне Пінак'ю панясе за тое, што на апошніх выбарах прэзідэнта краіны падтрымаў не таго кандыдата.

Сам сенатар Пінак'ю пакуль не падае духам. «Мяне ўсяго кінуць у возера, адкуль я пастараюся выплыць, — кажа ён. — Купанне дапаможа мне аднавіць энергію і ачысціць маю душу ад злых духаў».

## А яшчэ быў выпадак

***У аднаго дэпутата грэчаскага парламента днямі абрабавалі дом. Дэпутат, абураны разгулам злачыннасці ў краіне, вельмі пакрыўдзіўся на сілы правапарадку. На наступны дзень ён з'явіўся ў парламент з пісталетам у руцэ. Падышоўшы да міністра аховы грамадскага парадку, ён прыгразіў прыкончыць апошняга, калі той не наладзіць справы як след у сваім ведамстве.***

Дэпутат ад кансерватыўнай партыі «Новая дэмакратыя» Герасімас Г'якулатас заявіў рэпарцёрам, што калі ягоны пастаянны апанент міністр-сацыяліст Георг Рамсас не пойдзе ў адстаўку, з яго сіламі народнага выбранніка «будзе зроблена катлета».

Калі Г'якуматаса спыталі, як ён ухітрыўся пранесці пісталет у будынак парламента, мінуючы службу бяспекі і металадэтэктары, ён адказаў, што носіць зброю з сабой пастаянна, бо, улічваючы бязладдзе, якое творыцца, на яго погляд, у краіне, нідзе не можа быць спакойным за ўласнае жыццё.

## Анекдот

*— Ідзе моцны дождж, а мая жонка пайшла гуляць без парасона.*
*— Не бойся, я думаю, яна схаваецца ў якім-небудзь магазіне.*
*— Вось гэтага я і баюся.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
***ФАКС**: 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.755. Індэкс 63850.
Зак. № 4421.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12